ЛіМ
ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

21 ЛІПЕНЯ 1995 г. № 29 (3801) Кошт 2 000 руб.

Алесь ЗВОНАК

## РЭКВІЕМ

I

Мінуламу назад няма звароту,
У сударгах канае тлумны век.
Са свістам, з гікам гнаны за вароты
Той, хто рубеж дазволу перасек.

Я сам з тых бітых, гнаных, катаваных,
Хто ў першай квадры веку сілы клаў
За адраджэнне людства, а не Здані,
Што па еўропах швэндацца ўсчала.

Не для таго прыйшоў я з Краю Ночы,
Каб сцяўшы ў сэрцы горкую тугу,
Убачыць, як тваю святыню топча
Не даўні варвар, а сучасны гун!

Я ж бачыў, як таптаді сцяг надзеі,
Як апантана дралі на шматкі,
Як сцяг былы на гмах стары уздзелі
Майстры ілжы, руін будаўнікі...

Аднойчы мне сказаў філосаф слынны,
Што ператтрушваў старажытны хлам:
Ну, што ты маеш? Дулю з маргарынам*
А кесар кесарава возьме й сам!

Дактрыне той старанна нас вучылі:
Жанчыне — серп, мужчыне — малаток:
Хоць жні, хоць куй, хоць будзь,
як конь у мыле, —
Прыдбаеш вымпел, граматку, значок!

Там, дзе жыве ў законе беззаконне,
Дзе страчаны людскім ахвярам лік,
Прах Генія кіруе намі й сёння
Праз тоўшчу сцен — гранітны маналіт.

Зямля Зямному — мір, спакою лона,
Дзе невядомы кроў, забойства, страх...
Не трэба мумій, мы ж не фараоны,
Нам сціплы крыж радней, чым саркафаг!

II

Як пхалі нас да райскіх тых вытокаў,
Дзе камунізму прозалаць відна!
Расце нявер'е там, дзе шмат пракокаў,
Што рай зямны прарочылі для нас.

А на паверку ўсё лухта і смецце
Высакапарных танных тых дактрын,
Вер ці не вер, хоць плач сабе, хоць смейся,
А вынік, як ні торкайся, адзін!

Такі наш век крывавы і скандальны,
Бяскроўна мы бадай што й не жывём,
Прагрэс тэхнічны і рэгрэс маральны
Адзінствам процілегласцей завём!

Вось так! Забітым заадно й забойцам
Як пагалоўю быдла ўлік вядзём.
А слёзы? Кроў? Не ліцца ж ім бясконца
І праз туман крывавы свет відзён!

* *У сувязі з вельмі высокай цаной на масла вырашана замяніць дулю (фігу) з маслам на дулю (фігу) з маргарынам. Значна танней.*

*(Заканчэнне на стар. 3)*



ФЕСТЫВАЛІ

# КІРМАШ ДЗІВОСАЎ:

## ВОСЬМЫ ГОД, У ЧАЦВЁРТЫ РАЗ, ТРЫ ДНІ — І ЎПЕРШЫНЮ!

***"Гэта не нашая з вамі часіна", — неяк пакутліва прызнаўся мне адзін вядомы кампазітар.***

***"Гэта не наша з табою часіна", — нібы ўздыхалі знаёмыя вочы паэта, што нудзіўся побач, у чарзе па зарплату. Сімвалічную зарплату, якая знікае хутчэй, чым рухаецца чарга. Чарга дык не сімвалічная, хаця сама па сабе — сімвал. Сімвал — яна, а не Паэт: які час, такі й сімвал. І ўсё ж...***

***І ўсё ж, людцы мілыя: ну які ж... грэшнік адмовіцца ад свята для душы — хай сабе ў наш("наш"!) час, не ў нашу з вамі часіну!***

***Не давайце веры, што ў "наш" час адно толькі тлум бяседнага стала падсілкуе, усцешыць і нават акрыліць душу! Не спяшайцеся сцвярджаць, што кожнае цяперашняе свята — "баляванне падчас чумы". Успомніце, што "свята" і "святое" — аднаго моўнага кораня, таму не пакідайце ж святаў нашых, каб душой не ўмёрлі. Для ўратавання стомленай і збалелай душы ёсць мудрасць прыроды і мудрасць музычнай творчасці. Ёсць вечна маладое, поўнае аптымізму, бясконцае ў сваіх размаітых праявах, народнае мастацтва. Свае гаючыя сокі яно не ашчаджае "на потым", аддае поўніцай. "На потым" застаюцца толькі ўспаміны плюс гульня фантазіі.***

***Уражанні плюс уяўленні ўтвараюць, урэшце, бяздонны куфэрак з неверагодным стракатым начыннем, быццам прыдбаным на нейкім казачным кірмашы. Праз дзень, праз тры, праз тыдзень пачынаеш разумець, што гэта былі не фантазіі сну. Гэта былі зусім праўдзівыя дзівосы, якія не маеш з чым параўноўваць...***

***А і сапраўды, параўноўваць няма з чым: сёлетні, восьмы ўжо, фестываль "Звіняць цымбалы і гармонік" быў для мяне першы. Вядома, што традыцыя гэтага свята народнай музыкі нараджалася ў "фестывальнай сталіцы" — Віцебску, працягвалася ў Магілёве. Шляхетнае мястэчка Паставы падхапіла (перахапіла? адхапіла? захапіла?) яе чатыры гады таму і, відавочна, аддаваць не збіраецца.***

***І правільна! Аддаваць добрую традыцыю? Гэта ж усё адно што "здаваць" традыцыю, "утылізуючы яе, як малакаштоўны прадмет"... Зрэшты, чаго толькі ў нашых традыцыях не бывае...***

***Ну, а калі казаць ужо зусім сур'ёзна, дык, мяркуючы па тварах і рэпліках заўсёднікаў, пашчасціла мне заспець самы лепшы з васьмі праведзеных фестываляў. Спрыялі штогадовая вучоба арганізатараў (Міністэрства культуры і друку, упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама, Пастаўскі райвыканкам) на ўласных памылках, напрацоўка вопыту, усталяванне і падтрымка лепшых традыцый і аснова асноў — жывы самакрытычны розум ды няўрымслівыя творчыя сэрцы. Удалося і захаваць, і годна правесці фестываль нават у той самы "наш" і "не наш з Вамі", Ваша Вялікасць Культура, час.***

●

Чытач, які б ён кемлівы ні быў, можа толькі здагадвацца, чым такім-гэткім я магла напакаваць свой "куфэрак", аж тры дні паблукаўшы-патуляўшыся, а дзе й палётаўшы, па дзіўным кірмашы, на якім шмат чаго паказвалі, ды амаль не гандлявалі.

Чытач, нават не дужа кемлівы, можа здагадвацца, што дзень першы пачынаўся з дарогі. А дарога была — як экспазіцыя ў п'есе: ад знаёмства з галоўнымі дзейнымі асобамі да "ружжа, што мусіла стрэліць" (даўжэзную трубу-сурму везлі ў аўтобусе маладыя невядомыя музыкі, якія потым выйшлі ў лідэры фестывалю). Быў нават "элемент афармлення сцэнічнай прасторы" — дзівосны краявід за вокнамі з намёкам на "ландшафтныя дэкарацыі" будучых падзей...

Аднак, як і маецца быць у крутой драматургіі, мроі пра уікэнд на прыродзе аказаліся падманлівымі. Спланаваны з дакладнасцю да паўгадзіны фестывальны графік не дазваляў расслабіцца. Атрымалі ключы ад гасцініцы (дзе, дарэчы, для нас быў раздрукаваны расклад усіх трох дзён і дзе кожнага чакаў на століку арыгінальны сувенір — узор народнага штука рства), кінулі сакваяжы ды торбы — і зноў у аўтобус. Бо апоўдні ў так званым "Пятым гарадку" (колішні засакрэчаны прытулак лётчыкаў) пачынаўся конкурс навучэнцаў дзіцячых школ Віцебскай вобласці.

*(Працяг на стар. 10-11)*

Памяць

# "ХАЦЕЛАСЯ Ў ЖЫЦЦІ СЁЕ-ТОЕ ПАПРАВІЦЬ..."

Тут заўсёды спакой і цішыня. І калі заходзіш сюды, то адразу забываюцца спрэчкі і звады, праходзяць і падаюцца выпадковымі, не вартымі асаблівай увагі непрыемнасці, таму што тут застаешся сам-насам з вечнасцю. Тыя, што ляжаць тут пад звычайнымі крыжамі ці мармуровымі плітамі, даўно далучыліся да гэтай самай вечнасці і сталі часцінкай яе — маленькай і такой загадкавай.

Гэтак і на Усходніх могілках у Мінску, з адной хіба розніцай: на іх, асабліва ў самым цэнтры, спатыкаеш імёны многіх знакамітых людзей. Сярод іх — нямала і пісьменнікаў. Злева ад цэнтральнага ўваходу — свежая магіла Барыса Іванавіча Сачанкі. Поруч з ім пахаваны Пімен Панчанка, паблізу — Кандрат Крапіва. Ён адышоў ад нас ужо даўнавата. Перастала біцца сэрца народнага пісьменніка, выдатнага навукоўца-мовазнаўцы, былога віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі 7 студзеня 1991 года. Так сталася, аднак, што толькі цяпер урэшце паставілі яму годны надмагільны помнік. З гэтае нагоды і сабраліся на Усходніх могілках 14 ліпеня прадстаўнікі грамадскасці. Каб пакланіцца магіле К. Крапівы, каб ушанаваць яго памяць...

Зняў пакрывала з помніка прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Л. Сушчэня. Воблік Кандрата Кандратавіча — на высокай стэле. Строгі, засяроджаны твар. Такім ён быў у жыцці, хоць сябры і блізкія ведалі, што строгасць гэтая — падманлівая. За ёй хаваліся філасофскі роздум, чалавечая дабрыня. Злева ад бюста — пліта, на якой словы: "Мною валодала... жаданне ўмяшацца ў жыццё і сёе-тое ў ім паправіць. Кандрат Крапіва".

І болей ні слова...

Скульптар С. Гарбунова і архітэктар Ю. Казакоў увасобілі памяць аб тым, з чым імем звязана цэлая паласа ў гісторыі беларускай навукі, нацыянальнай літаратуры, культуры. К.Крапіва быў з першапраходцаў, за якімі куды больш упэўнена ісці наступнікам, якія, як і іх папярэднік, імкнуліся годна служыць свайму народу, сваёй Бацькаўшчыне.

Шлях Кандрата Кандратавіча — знакамітага вучонага, народнага пісьменніка, аднаго з пачынальнікаў беларускай драматургіі* — паўставаў з выступленняў Л. Сушчэні, народнага пісьменніка Беларусі І. Навуменкі, ганаровага прэзідэнта Акадэміі навук М.Барысевіча, дырэктара Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К.Крапівы М.Піліпенкі, дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы В. Каваленкі, саветніка прэзідэнта Рэспублікі Беларусь С.Посахава.

З удзячнасцю да прысутных за ўшанаванне памяці Кандрата Кандратавіча звярнулася ўнучка К. Крапівы А. Атраховіч.

Устаноўка надмагільнага помніка К. Крапіве — адзін з першых крокаў па ўшанаванні памяці выдатнага БЕЛАРУСА. Інстытут літаратуры сумесна з выдавецтвам "Мастацкая літаратура" мае намер ажыццявіць выпуск Збору твораў К. Крапівы ў шасці тамах. Рыхтуецца кніга ўспамінаў пра яго, для студэнтаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта і універсітэта культуры ўстанаўліваюцца імянныя стыпендыі. Аднак, як сказаў у сваім выступленні І. Навуменка, трэба спадзявацца, што з цягам часу помнік К. Крапіве з'явіцца і ў самім горадзе.

Безумоўна, той, хто хацеў сёе-тое папраўіць у нашым жыцці, гэтага заслужыў. Нам жа застаецца памятаць яго і рабіць усё дзеля таго, каб жыццё і на самай справе станавілася лепшым.

**Н. К.**

# РЭКВІЕМ

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

**У нас на ўсё пагляд дыялектычны:**
**Каб больш плацілі і каб менш пілі,**
**Цану на пляшку**
**горкую "Пшанічнай"**
**Да вышыні касмічнай узнялі!**

**Я спачуваю шчыра і душэўна**
**Піткам, хоць сам ужо не п'ю даўно,**
**Так сіратліва й пуста у кішэні,**
**Як на савецкім фільме у кіно!**

**III**

**На сто галоў вышэй**
**за нас наш продак,**
**Што жыў як пан сахі і пан касы.**
**Ён не шукаў, як мы,**
**надзейны сродак**
**Знішчэння богам дадзенай красы;**

**Красы зямной, красы людскога духу**
**Над тлом чарнобыляў і хірасім...**
**І боязна, каб нейкі лапавухі**
**Не зашугаў планетку ў прах і дым...**

**Як спадарожнік**
**у пясках пустэльні,**
**На ўсё гатовы за глыток вады, —**
**Да ўлады рвецца**
**так праз круг пякельны**
**Зямных даброт**
**шукальнік маладЫ...**

**Хто ён такі? З пароды тых кухарак,**
**Што заклікаў да ўлады Правадыр?**
**А што народу?**
**Хто б ні сеў на карак,**
**Яму ніяк не вылезці з бяды.**

**Адзін прарок вяшчаў,**
**што піць не трэба,**
**Другі — што есці трэба**
**як найменш...**
**Цяпер і мы разгадваем той рэбус,**
**Ці саладзей за рэдзьку горкі хрэн?!**

**IV**

**Адкажа хто: з якой такой нагоды**
**Усё пайшло на ганьбу і на злом:**
**І мова й сцяг, і сімвалы свабоды —**
**Усё, што сэрцу дорага было?!**

**Яшчэ не ўкрыла чырвань**
**твару скуру,**
**Яшчэ брынчыць звон**
**юдавых манет,**
**А ўжо гатоў вяльможны**
**пан Бабурын**
**Узяць у двор за парабка мяне!****

**Старэйшы брат**
**паблажлівы й салідны,**
**Я перад ім скачу, як страказа:**
**Служыць бы рад,**
**прыслужвацца агідна,**
**Як Грыбаедаў некалі казаў.**

**V**

**Да нас прасцерла Будучыня рукі,**
**Як маці, ўсмешкай азарыўшы твар,**
**Каб незалежным стаў,**
**хто гнуўся крукам,**
**Хто быў сабе ні госць, ні гаспадар.**

**Я чую продкаў кліч: Люд Беларусі,**
**Дзе гонар ваш, дзе воля,**
**дзе булат?!**
**Зноў без'языкай парыяй у скрусе**
**Збірацьмеш крохі**
**з барскага стала?!**

**Устаньце горда з памяці знябытай,**
**Сыны Зямлі, атросшы пыл часін:**
**Няхай ізноў крышталь надзей**
**разбіты,**
**І ладзяць баль будаўнікі руін;**

**Хай час ляціць у прорву ашалела —**
**Яднання дух адолее распад**
**І зноў пад сцягам**
**бел-чырвона-белым**
**Люд беларускі зойме свой пасад!**

**P. S. Надзеньце зноў наручнікі**
**на рукі,**
**Сілком закіньце ў пекла Калымы,**
**Няма такой на свеце горкай мукі,**
**Няма такой павальнае чумы,**
**Каб заглушыла Адраджэння гукі**
**І Абурэння грозныя грамы!**
**Хоць ланцужок залочаны**
**ды йржавы**
**Парвацца можа як там не глядзі, —**
**Не можа люд Свабоднае Дзяржавы**
**На ворчыку ў карэнніка хадзіць!**

*** На пасяджэнні Дзяржаўнай Думы Расійскай Федэрацыі дэпутат Бабурын прапанаваў правесці ў канцы бягучага года рэферэндум аб далучэнні Рэспублікі Беларусь да Расійскай Федэрацыі.*

# УЗНЯСЕННЕ АЎЦЮКОЎЦАЎ, або КАЛІ АЎЦЮК БЫВАЕ ЧЫСТЫМ

## ПРАДГІСТОРЫЯ (гутарка з У. ЛІПСКІМ)

**— Дык з чаго ўсё пачалося, Уладзімір Сцяпанавіч? Як вы адкрылі для сябе і для ўсіх нас Аўцюкі?**

— Сам я з Рэчыцкага раёна, гомельскі, так што аўцюкоўцы — мае землякі і суседзі. Але пра Аўцюкі, як ні дзіўна, я пачуў у Мінску. Упершыню заехаў туды гадоў пяць таму (шмат дзе бываю па чарнобыльскіх справах). Уразілі мяне дзве гэтыя вёскі — Вялікія і Малыя Аўцюкі, уразілі іх жыхары, багата ўбачыў і пачуў. Пайшоў па хатах — распытваў, запісваў, са многімі пазнаёміўся, назіраў за людзьмі і ў будні, і ў святы. Бо кажуць, калі хочаш пабачыць аўцюка чыстым, то прыязджай на свята. З цягам часу ў мяне ладна сабралася аўцюкоўскіх жартаў. У Доме літаратара адбыўся вечар гумару, па радыё прайшла цікавая пастаноўка В. Анісенкі, з'явіліся публікацыі ў газетах і часопісах, здаў рукапіс у выдавецтва... І я адчуў, што за ўсімі аўцюкоўскімі гісторыямі — то смешнымі, то скрушнымі — стаіць нешта большае, чым проста гумар, — невынішчальная душа нашага народа. Так што ідэя фестывалю народнага гумару не на голым месцы ўзнікла...

— І хто падтрымаў вас у вашай задуме?

— Найперш сябры-пісьменнікі — драматург Алесь Петрашкевіч і галоўны рэдактар "Вожыка" Валянцін Блакіт. Утрох рушылі да міністра культуры. Анатоль Бутэвіч выслухаў, падумаў — і даў "дабро". Двойчы мне было па-сапраўднаму боязна ў сувязі з гэтай ідэяй: напачатку, калі маглі адмовіць, адмахнуцца, сказаць "не да таго", і ў дні самога фестывалю, калі мясцовыя "каласкі" далі сабе паслабку. Адно надзвычайнае здарэнне магло сапсаваць усё свята. На шчасце, усё абышлося...

— А як мясцовыя ўлады паставіліся?

— Найлепшым чынам. Без іх падтрымкі ў нас бы нічога не выйшла. Свята нельга "прывезці", у яго павінны ўключыцца самі гаспадары. Асаблівую ўдзячнасць хачу выказаць старшыні Калінкавіцкага выканкама Мікалаю Апанасавічу Пранкевічу.

— Скажыце шчыра — стаміліся?

— Не тое слова!..





## КОНКУРС НА ЛЕПШЫ ПАДВОРАК

Можна спрачацца, ці быў абавязковым гэты конкурс у рамках І Усебеларускага фестывалю народнага гумару, але, як на мой погляд, ён аказаўся не лішнім і ў агульную панараму ўпісаўся арганічна. Іншая справа, што сэнс акцыі жыхарам давялі не зусім дакладна. Па сутнасці адбыўся конкурс паміж майстрыхамі-ткаллямі: ад саматканак і ручнікоў, развешаных на платах, аж стракацела ўваччу, але ні двары, ні хаты ніхто спецыяльна не прыбіраў і не прыхарошваў. Журы па ўласнай ахвоце рабіла невялікія агледзіны, прычым ацэньваліся і ўнутранае аздабленне хаты, і стан падворку, і гаспадарскія здольнасці. Былі адзначаны каштоўнымі прызамі не толькі лепшыя майстрыхі (там нават летам можна ўбачыць неразабраныя кросны), але і пчаляры, бондары, рэзчыкі па дрэве, здольныя агароднікі, вінаробы.

У многіх выпадках гаспадар сумяшчаў у сабе шмат талентаў, а вось гаспадыні часта аказваліся ўдовамі. Сярод іх Валянціна Галкіна, у якой тры малыя сыны і якая, па словах суседзяў, "абвязала паўсельсавета". Сама яна прызналася, што як убачыць дзе ніткі — апошнія грошы аддае, і працэс вязкі стаў для яе "як гарэлка для алкаголіка". Параўнанне робіцца больш зразумелым, калі ўгледзішся ў твары мясцовых мужчын: на многіх з іх — пячатка сумнавядомага злоўжывання.

Дзяўчаты, як папытаешся, ужо ткаць самі не бяруцца, толькі падсабляюць мацяркам — ніткі рыхтуюць. Сярод нямногіх выключэнняў — семнаццацігадовая Марыя Сопелева, чыім умельствам маці ганарыцца. Праўда, яе вырабаў нам бачыць не давялося: вывешвалі "набіванкі" ды "падкладанкі" толькі тыя, каму сказаў "сельскі" (так тут завуць старшыню сельсавета).

— Каб мы ўсе сваё павыносілі — вы б за тыдзень не агледзелі! Цікавым быў і рытуал агледзін — з невялікімі адрозненнямі ў Малых і Вялікіх Аўцюках. У Малых, дзе хаты шчыльней ("усяго" кіламетраў чатыры вёска) госці болей ішлі. У Вялікіх у асноўным пад'язджалі на вазку, і толькі нязначную частку вёскі праехалі. У Малых па вуліцы рухаўся адзін суцэльны гармідар са скокамі і песнямі, адно рабіліся прыпынкі ля сядзіб. У Вялікіх збіраліся купкі пры кожнай з хат, прычым нярэдка нас сустракалі з абразамі. І там, і тут былі вынесены сталы з пачастункам, самаробнай гарэліцай і віном.

Пры падвядзенні вынікаў улічвалася і як сустракала гасцей гаспадыня — яе ўменне сыпаць жартамі, дасціпна адказваць на рэплікі. Гэта быў своеасаблівы конкурс "размоўнікаў" — тое, чаго не было ў асноўнай праграме фестывалю.

## АЎЦЮК ЯК З'ЯВА ПРЫРОДЫ

Прайшоўшы "мытню" з абавязковым анекдотам, я найперш пацікавілася ў мясцовых людзей, а ці сапраўды ўжываецца тут шырока разрэкламаваны зваротак "каласок" і "калінка" (ён настолькі гожы і мілагучны, што здаецца літаратурнай прыдумкай). Сказалі: так, ужываецца, але ў Вялікіх часцей, чым у Малых.

У існаванні аўцюкоўскага гумару сумнявацца не даводзілася: я пачула мноства неверагодных баек пра звычкі, характар, побыт аўцюкоўцаў. Ведаеце, што робіць аўцюк, калі хоча паранага малака? Ён вядзе карову ў хату і ўключае яе рагамі ў разетку. А як яны прыгаворваюць, чарку поўна наліваючы? "Каб вочы не западалі". Цэлую калекцыю мясцовых жартаў сабраў настаўнік Мікалай Горб, які сам родам з Тураўшчыны.

А вось узор аўтэнтычнага гумару, пачуты на ўручэнні прызоў у Малых Аўцюках. У. Ліпскі віншуе ўдзельніц і кожную сардэчна цалуе ў шчаку. Раптам выразная рэпліка жанчыны з натоўпу:

— Ліпскаму трэба бронежылет: ён перацалаваў усіх нашых жанок.

Наступным атрымлівае прыз "каласок" і каменціруе яўна на публіку:

— А мяне ён цалаваць не збіраецца!

Імгненная рэакцыя вяскоўцаў:

— Надзень спадніцу!

А ўжо "салёненькага" наслухаліся — на шмат гадоў наперад... Вось адна з самых цнатлівых мясцовых прыпевак:

**Завёў аўцюк**
**У сена капічку,**
**Зрабіў аўцюк**
**З дзеўкі маладзічку...**

Аўцюковец не стамляецца смяяцца і пакеплівацьз самога сябе, а між тым ён зацяты, ранімы і часам здаецца пакрыўджаным на ўвесь белы свет. Пагутарыўшы з людзьмі — хаця б і наспех, у святочным тлуме, — я лепш зразумела падзагаловак кнігі Ліпскага, што выйшла акурат да падзеі: "Аповесць пра "каласкоў" і "калінак", якія гаруюць і жартуюць". Як чалавек мяккі і трошкі сентыментальны, Уладзімір Сцяпанавіч мог прыўкрасіць вобраз аўцюкоўца, "скругліць" яго вуглаваты характар, які далёка не ўсім даспадобы. Найперш — начальству, бо яно лічыць аўцюкоўцаў асобамі, якім "палец у рот не кладзі". Тым не менш, гэтыя не самыя рахманыя з "тутэйшых" так і не здолелі дабіцца пашы для сваіх кароў. У Малых тры статкі, па 80, 50 і 90 галоў, а пасвіць іх практычна няма дзе. Мо таму, што і начальства — спрэс аўцюкі, калі не паходжаннем, дык савецкім выхаваннем. Як кажуць, не на тых нарваліся... Так што на жывёлагадоўчую тэму аўцюкоўкі без слёз гаварыць не могуць. Працавітасць сваю яны ўсведамляюць і цэняць. Абагульняючы, адна кабета выказалася так: "Ад беларуса ні травіна, ні ягада не схаваецца. Трудзяшчыя мы". І дадала: "І гарушчыя..." Святая праўда! Мяняюцца гады, пакаленні, грамадскі парадак, кіраўнікі, а вясковы наш працаўнік як гараваў, так і гаруе. Падалося нават, што гумар для аўцюкоўцаў — гэта як сродак фізічнага і духоўнага ратавання ў нялюдскіх, хоць і звыклых, умовах.

Мяркуйце самі. Вёскі велізарныя і шматлюдныя, ды моладзі няма дзе працаваць, няма да чаго прыкласці рукі. Усе ж не могуць пайсці механізатарамі і даяркамі. У планах раёна запісана стварыць вытворчасць па перапрацоўцы, ды калі тое будзе!.. А моладзь — вось яна: нясуць дзяцей на руках, вязуць у калясачках, вядуць за рукі. Хоць у гэтым маладзіцы ад мацярок не адсталі: пяцёра, шасцёра дзяцей у сям'і — тут звычайная з'ява; як трое, то ўжо мінімум лічыцца. Хто і калі падумае пра іх, сённяшніх

*(Працяг на стар. 4)*

ЛІМ
ЧАСАПІС



## "ПАГОНЯ НА ГРУНВАЛЬД"

**4 ліпеня адбылося першае мерапрыемства з запланаваных Аргкамітэтам па святкаванні 585-й гадавіны Грунвальдскай бітвы. У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі прайшла мастацка-адукацыйная імпрэза "Пагоня на Грунвальд". У збройнай зале музея 70 маладых слухачоў Акадэміі міліцыі сустрэліся са спадарамі навукоўцамі, літаратарамі, грамадскімі дзеячамі — паэтам і філосафам Алегам Бембелем, гісторыкам Ібрагімам Канапацкім, намеснікам старшыні БЗВ Алесем Станкевічам ды іншымі. Свае прыгожыя песні спяваў Кастусь Герашчанка. Да яго далучыліся барды, будучыя спадары афіцэры Аляксандр Макарэвіч і Дзмітрый Бунас. Быў праведзены бліц-турнір "Мой радавод", падчас якога прысутныя ўспаміналі сваіх продкаў. Пераможца турніру, слухач акадэміі Вячаслаў Шаўчэнка, расказаўшы пра свой радавод да чацвёртага калена, атрымаў першы прыз — кнігу К. Тарасава "Памяць пра легенды". Кожны з удзельнікаў сустрэчы атрымаў не толькі карысную і цікавую інфармацыю, але і добры сувенір — буклет з вершам і нотамі спеву "Магутны Божа". Духоўны гімн Беларусі завяршыў імпрэзу ў музеі.**

**І. З.**

## БЫЎ У ВАЙНУ ТАКІ ВЫПАДАК...

**Аляксей Пысін знаходзіўся на вайне з першага да апошняга дня. Прайшоў баявымі шляхамі пяці франтоў. Быў двойчы паранены. Запытаўся ў яго неяк: дзе і як ён сустрэў Дзень Перамогі?**

**Аляксей Васільевіч расказаў, што сустрэў яго ў Латвіі, на беразе Балтыйскага мора. Там чацвёртая ўдарная армія разам з іншымі трымала ў надзейным акружэнні Курляндскую групоўку варожых войск. А гэта — трыста трыццаць тысяч нямецкіх салдат і афіцэраў.**

**З нагоды заканчэння вайны асобна наладзілі застоллі: савецкія салдаты — сабе, немцы — сабе. Выпіўкі і закускі хапала. Захмялеўшы, пачалі запрашаць з абодвух бакоў адзін аднаго ў госці. Размаўлялі праз перакладчыкаў. А затым пайшло братанне. Так адбылося прымірэнне. А неўзабаве ўзнялася страляніна. Гэта быў святочны салют.**

**— Назаўтра я жахнуўся, — успамінаў Аляксей Васільевіч. — Немцаў было ў сотні разоў больш, чым нашых... Яны, каб хацелі, маглі нас перадушыць голымі рукамі. Ды толькі не было ніводнага забітага, ніводнага параненага. Ні ў нас, ні ў немцаў.**

**Аляксей Васільевіч дадаў, што пра такі выпадак ён ні ад кога з іншых франтавікоў не чуў. Таму і сам нікому не расказваў. І верша не напісаў — не надрукавалі б.**

**Пазней паэт яшчэ разы два ці тры пры выпадку пераказваў мне гэты незабыўны для яго эпізод. Мяне ён надзвычай уразіў.**

**Віктар АРЦЕМ'ЕЎ**
*г. Магілёў*

## ПРЫ ПАДТРЫМЦЫ ФОНДУ СОРАСА

**"Бібліятэкі і асацыяцыі ў зменлівым свеце. Новыя тэхналогіі і новыя формы супрацоўніцтва" — так называлася 2-я Міжнародная канферэнцыя, што праходзіла ў г. Еўпаторыя на Украіне. Удзел у яе рабоце прыняў і дырэктар Беларускай сельскагаспадарчай бібліятэкі Уладзімір Голубеў. Наведаць жа прадстаўнічы міжнародны форум (660 спецыялістаў з 35 краін) яму дапамог Беларускі фонд Сораса.**

**Дарэчы, гэта не першы прыклад падтрымкі фондам Сораса ініцыятыў бібліятэкі па інтэграцыі навукова-тэхнічнай інфармацыі Беларусі ў сусветную інфармацыйную прастору і па стварэнні нацыянальнай інфармацыйнай прасторы. Фонд у снежні 1994 года прадставіў бібліятэцы грант у памеры 11 тысяч амерыканскіх долараў.**

# УЗНЯСЕННЕ АЎЦЮКОЎЦАЎ, або КАЛІ АЎЦЮК БЫВАЕ ЧЫСТЫМ

*(Працяг. Пачатак на стар. 3)*

падросшых аўцюкоўцаў, і тых, што падрастаюць? Куды, у які бок ім падацца з іх няўрымслівымі натурамі? Шмат іх раскідана па рэспубліцы. Кажуць, што аўцюк ёсць нават у адміністрацыі прэзідэнта...

Не спытала толькі пра М. Пранкевіча — тутэйшы ці прыехаў адкуль? Што паляшук — відно, бо смуглявы, і вочы з хітрынкаю. Ні на адно журналісцкае пытанне не адказаў усур'ёз, усё смехам, жартачкамі. А як мы не аўцюкі, то прэс-канферэнцыя так званая мала адпавядала свайму гучнаму найменню.




## СВЯТА ПАД ДУБКАМІ

Паколькі вялікааўцюкоўцы з малааўцюкоўцамі здаўна супернічаюць і не мірацца, то фэст праводзілі строга пасярод, на лузе "за канавай". Канавай, як высветлілася, тут называюць выпрастаную меліярацыяй рэчку Закаванку. "Дубкамі" гэта ўрочышча назвалі, мабыць, вельмі даўно, з той пары дрэвы выраслі і падужэлі. Іхні гаючы цень быў зусім не лішні ў сонечнае надвор'е.

Да свята грунтоўна падрыхтаваліся і на мясцовым узроўні. Дзеля такога выпадку выдалі калгаснікам палучку за май, паміж вёскамі-блізнятамі спехам праклалі асфальт. У Закаванцы двойчы рабілі запруду, запусцілі туды рыбу, перакінулі масток. На ўзлессі размясціўся цэлы гарадок: стаянка для машын, тры сцэны, павеці, палаткі і да т. п. Уявіце ўсё гэта ў людскім атачэнні ды з мноствам легкавушак, міліцэйскіх машын, крытых гандлёвых будак, аўтобусаў, на якіх прыбылі дэлегацыі з абласцей. А далёка чутныя звонкія галасы з пляцовак! А маляўнічыя купкі дзядзькоў і цётак "на пленэры"! (Цёткі, як падалося, тут нішто сабе, а вось мужыкі драбнаватыя.)

У *лепшых традыцыях славянскага гумару* прайшло адкрыццё фестывалю. Высокае начальства (старшыня аблвыканкама П. Шыпук і міністр культуры і друку А. Бутэвіч) спаборнічала ў дасціпнасці. Членам журы надзелі саламяныя капелюшы, каб яны адрозніваліся ад простых удзельнікаў. Не забыліся і трохі падурыць публіку (што ж за свята гумару без розыгрышу!).

Журы, падзяліўшыся на групы, праглядала конкурсныя праграмы абласцей, у тым ліку гульнёвыя. З апошніх асабліва спадабалася гульня "ў чыгун", праведзеная студэнтамі Універсітэта культуры. Падчас гала-канцэрта, сабраўшы астаткі сіл (вяселле і тое гуляюць два дні, а не тры!), журы выпісвала граматы і *размяркоўвала прызы. Задача няпростая,* бо:

а) Многія з праграм і нумароў не "цягнулі" на ўзнагароду, між тым прызоў "па нітцы" назбіралі, і не прападаць жа дабру!

б) Калі мех сухога малака або цукру дзеліцца на калектыў, то як (думала журы) яны падзеляць норкавую шкурку, радыёпрыёмнік або страхавы поліс?

в) Разнастайную "жыўнасць" у выглядзе парасят, гусей і качак перавозіць у далёкія рэгіёны праблематычна, і яе стараліся ўручаць *мясцовым фальклорным калектывам*, а таксама ўсім, хто спаборнічаў у прыгатаванні юшкі, перацягванні каната і расказванні непрыстойных анекдотаў (для навукі). Праўда, пашанцавала і заслужаным артыстам — В. Карэлікавай і М. Чырыку. Апошні з гусём пад пахай глядзеўся досыць імпазантна.

Непасрэднае ажыццяўленне праграмы легла на плечы міністэрскіх супрацоўнікаў і непасрэдна — Тадэвуша Стружэцкага, начальніка Упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці. На шчасце, у яго былі досыць талковыя памочнікі. "Хапіла" таксама і галоўнаму рэжысёру відовішча П. Гуду, і вядучым Ю. Авяр'янаву і Г. Бальчэўскай, і тэлевізійнай брыгадзе на чале з Д. Яканюком.

Напружанасць, якая дасягнула кульмінацыі падчас уручэння прызоў, спала толькі тады, калі разабралі апошніх гусей і качак, калі раз'ехаліся дэлегацыі, калі міліцыянеры павялі варанога каня, падараванага Калінкавіцкаму РАУС, а вялікааўцюкоўскія мужыкі — другога, рыжага і неаб'езджанага... Але пра гісторыю з канём — асобна.

## ХОД КАНЁМ

Конь быў адной з лепшых прыдумак арганізатараў. Дзякуючы шырокай рэкламе фестывалю, рэспубліка ведала пра імпрэзу і зацікаўлена чакала, хто ў тых невядомых Аўцюках атрымае каня. Ход быў выйгрышным і мог надаць яшчэ большы розгалас падзеі, якой, па задуме, належала ўвайсці ў гісторыю культуры Беларусі.

Але фестываль заканчваўся, а прэтэндэнта на каня не знаходзілася. Яго проста не было, як не існавала сістэмы і навуковай, прадуманай канцэпцыі конкурса, як не існавала выразнага крытэрыя, па якім належала ацэньваць конкурсныя нумары. Вобласці і Мінск прыслалі хто што мог. Са сцэны гучалі то аўтарскім прыпеўкі, то народныя жартоўныя песні ў самым банальным выкананні; асобныя нумары змяняліся цэлымі канцэртнымі праграмамі, аматары — прафесіяналамі, іскрынкі аўтэнтычнасці — мастацкай самадзейнасцю. Усё гэта сапраўды часамі нагадвала звычайны агляд мастацкай самадзейнасці, і незразумела было — у чым жа спецыфіка гэтага першага гумарыстычнага свята.



Уражанне агляду было давершана тым, што амаль усе ўдзельнікі атрымалі граматы "за ўдзел", "за развіццё народнага гумару" і г. д. Ганаровых грамат не ўручылі хіба толькі ганаровым гасцям — Нілу Гілевічу і Генадзю Бураўкіну ды перацягвальнікам каната. (Ці сказала я, хто перамог? Вялікія Аўцюкі!)

Больш за іншых адпавядалі жанру і самой сутнасці імпрэзы тэатры мініяцюр: "Фанограф" Гарадоцкага ГДК, "Балаган" з Лепеля, "Карусель" Мінскага трактарнага завода. Першы з пералічаных быў недалёка ад перамогі і атрымаў адзін з самых каштоўных прызоў. Былі і такія прабліскі самабытнасці, як В. Багданава з Чачэрска (жартоўная гульня), як Соф'я Навумчык (прыпеўкі з бубнам), як Р. Ластоўская з Пастаўскага раёна (уласная гумарэска).

Але конь!.. Конь мог стаць тым ружжом, якое ўсю дзею правісела на сцэне, ды так і не стрэліла.

...*Ідэя ўзнікла ў некалькіх галовах адначасова*: каня трэба аддаць ініцыятару, "хроснаму бацьку" фестываля Уладзіміру Ліпскаму! Наступны ход прадбачыць было няцяжка: Ліпскі, агаломшаны такім паваротам падзей, дорыць маладога безыменнага коніка Вялікааўцюкоўскай школе. Пра другога каня стала вядома перад самым фіналам; відаць, ён спецыяльна быў выдзелены раённай міліцыі, якая паспяхова справілася са сваімі нялёгкімі абавязкамі. Гэта ўжо быў яўны перабор і, можна сказаць, таўталогія. Такая вось атрымалася гісторыя...



## ГОСЦІ

Не прэтэндуючы на статус міжнароднага, *першы наш фестываль гумару, тым не менш*, сабраў нямала гасцей. Расію прадстаўляла група кубанскіх казакоў (атаман не забыўся прыхапіць сваю непараўнальную форму), Украіну — дэлегацыя з Жытоміра. З Польшчы прыехаць не змаглі. Беларуская суполка з Вільні прыслала дзяцей з настаўніцаю.

Заяўкай на будучую сусветную славу выглядала запрашэнне спецыялістаў па смехавой культуры з самога Габрава — дырэктара Дома сатыры і гумару Таццяны Цанавай і яго супрацоўніцы Венеты Козыравай. У балгарскай сталіцы гумару падобныя святы праводзяцца ўжо 20 гадоў, назапашаны вопыт, ёсць традыцыі, і было цікава даведацца, як наш "першы блін" бачыцца збоку. Балгаркі, як і належыць сапраўдным сябрам, былі шчырымі ў сваіх водгуках. Даўшы высокую ацэнку арганізацыйнаму забеспячэнню фестывалю, яны ўсё ж не маглі не заўважыць і слабых яго бакоў. Па-першае, гэта празмерная тэатралізацыя дзейства. Пры асноўнай задачы — сабраць і захаваць узоры народнага гумару — рэжысёрскае ўмяшанне павінна быць мінімальным, а конкурс — не зводзіцца да канцэрта. Па-другое, амаль адсутнічалі размоўныя формы, не было спаборніцтва жартаўнікоў, дзе звычайна расказваюцца сучасныя *вясёлыя гісторыі.* (Ад сябе дадам: *пры поўнай* адсутнасці нацыянальнага канферансу гэта істотнае ўпушчэнне.) Па-трэцяе, прафесійныя артысты і чытальнікі звычайна выступаюць па-за конкурсам, інакш губляецца сам сэнс такога роду свята.

Трэба сказаць, што ўсе названыя і неназваныя хібы "ў працэсе" станавіліся відавочнымі і для тых, хто ўсё гэта прыдумаў і "раскруціў". Ішла гаворка пра неабходнасць папярэдніх, адборачных тураў, каб непасрэдна на конкурс трапляла ўсё самае цікавае. *Больш дзейсным* можа быць і ўдзел фалькларыстаў, этнографаў, супрацоўнікаў Інстытута праблем культуры і *іншых устаноў адпаведнага профілю.*

На свяце прагучала шмат слоў і тостаў у гонар дружбы, культурнага супрацоўніцтва, агульных каранёў. Неяк збоку, у цені засталіся толькі тыя, без каго яно не адбылося б, — фундатары — прадпрыемствы і арганізацыі, якія забяспечылі ўзнагароджанне пераможцаў. Са сцэны не прагучалі нават іх імёны. Карыстаючыся нагодай, назаву хаця б старшынь, якія ахвяравалі коней. Гэта А. Лігорскі (калгас "Іскра") і М. Берчанка (калгас імя Леніна).

## МАРЫ І ПРАЕКТЫ

Пройдзе колькі часу, і Аўцюкі стануць абласным цэнтрам. Паміж Вялікімі і Малымі размесціцца аэрадром "Бабровічы". Не выключана, *што* сюды завернуць і чыгуначную лінію. Да Габрава пракладуць спецыяльную прамую шашу. Тут плануецца адмена ўсіх законаў Рэспублікі Беларусь і ўвядзенне сваіх уласных. Не лішне падумаць і пра гімн. Магчыма, ён будзе такім:

**Ляцяць самалёты —**
**"Прывет аўцюкам!"**
**Ляцяць верталёты —**
**"Прывет аўцюкам!"**
**Ляцяць дэльтапланы —**
**"Прывет аўцюкам!"...**

*"Як гэта добра, што ў цяжкі час станаўлення дзяржаўнасці вы знаходзіце час для гумару" (з выступлення кіраўніка ўкраінскай дэлегацыі).*

*"Народ, які спявае, які смяецца, які мае сваю культуру, мае і будучыню" (з выступлення А. Бутэвіча).*

Падмурак новай традыцыі агульнымі намаганнямі закладзены. Засталося ўзвесці яго прыгожы, стромкі, здалёку бачны гмах.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# ЕЎРОПА І МЫ

## ПАЛІТЫЧНЫЯ ТРАДЫЦЫІ Ў БЕЛАРУСКІМ КАНТЭКСЦЕ

Еўропа і Беларусь або Беларусь і Расія? Менавіта так ставіцца апошнім часам праблема нашага геапалітычнага існавання, і другі погляд пакуль значна пераважае. Але ці сапраўды адна альтэрнатыва выключае другую і ці наогул гэта такая невырашальная дылема? Хто мы ўрэшце — былыя еўрапейцы, няўдалыя ліцвіны, недаробленыя расійцы ці проста ўзорныя "саўкі"? На маю думку, самае ёмкае вызначэнне нам сёння — "бел, а русы". У тым сэнсе, што ні чорны, ні белы, ні русы, а проста ніякі. Гэта хоць прыблізна адлюстроўвае складанасць і няпэўнасць нашага становішча, становішча ў многім, бадай, унікальнага.

Напрыклад, аналітыкамі сённяшняй палітычнай сітуацыі на Беларусі прапануецца ў якасці ўзору англа-амерыканская партыйная класіфікацыя — "кансерватары-лібералы". Але, спадарства, будзьма рэалістамі! Калі ў Англіі кансерватары — гэта правая партыя, якая адстойвае традыцыйныя нацыянальныя каштоўнасці, то ў нас у ролі "кансерватараў" (абаронцаў старых устояў) фактычна выступаюць камуністы і (не так паслядоўна) — сп. Лукашэнка, усе тыя, хто імкнецца "закансерваваць" былыя савецкія традыцыі. Нашы ж "правыя" хочаш-не хочаш вымушаны быць радыкаламі-рэфарматарамі, мяняючы звыклы лад жыцця. І тут ужо розніца паміж "лібераламі" і "правымі кансерватарамі" зусім не істотная, бо, па-першае, уплыў у грамадстве іх не такі вялікі, каб ясна разгледзець і размежаваць першых ад другіх, а галоўнае — яны робяць адну справу дэструкцыі таталітарызму і пабудовы новага дэмакратычнага грамадства.

Вядома, такія сур'ёзныя перамены не могуць прайсці лёгка і прыгожа, як пісана ў заходніх падручніках, бо існуе рэальная інерцыя камуністычных фантомаў у свядомасці многіх людзей, моцнае супрацьдзеянне з боку "левых кансерватараў", а таксама няразвітасць і неакрэсленасць палітычных партый. Апошні фактар, ад якога ў нас чакалі занадта многа, пэўны час, відаць, яшчэ не будзе вырашальным. Бо, па-першае, ідзе мэтанакіраванае тармажэнне партыйнай структуралізацыі палітычнага жыцця з боку сённяшніх улад, а па-другое, хісткае сацыяльна-эканамічнае становішча не дазваляе людзям свядома і грунтоўна вызначыць сваю палітычную прыхільнасць. Адным словам, у пераходным грамадстве і юнай, няўстойлівай дзяржаве партыі таксама "пераходныя", недаўгавечныя і малаўплывовыя. Прыкладаў таму шмат: партыя калгасных старшыняў, "чырвоных дырэктараў", партыя ўлады, партыя агульнай згоды, вялікага адзінства, уласнага інтарэсу і г. д. Асабняком, але не выключэннем, стаіць у гэтым шэрагу Беларускі народны фронт.

Па сутнасці, БНФ утвараўся не як палітычная партыя парламенцкага тыпу, а як шырокі нацыянальна-дэмакратычны рух, ставіўшы сваёй мэтай аднаўленне беларускай дзяржаўнасці і духоўна інтэлектуальнае адраджэнне народа. У яго шэрагах былі людзі самых розных палітычных і светапоглядных арыентацый, але паколькі галоўным ворагам беларускай незалежнасці былі КПСС і КПБ, то БНФ ледзь не аўтаматычна стаў "правым". Аднак ягоная антыкамуністычнасць у значнай меры была "рэактыўнай", вымушанай, а сацыяльная база мала чым адрознівалася ад камуністычнай ці "ліберальна-дэмакратычнай". Таму натуральна, што з цягам часу пачался раздзяленне і пачкаванне БНФ, якое не закончылася і сёння. І ўсё ж галоўная мэта Народнага фронту — дзяржаўнасць Беларусі — хай і ў няпоўным, паўкаланіяльным выглядзе, дасягнута. Далейшае існаванне БНФ будзе апраўдана толькі ў выпадку страты ўсіх атрыбутаў дзяржаўнасці і вяртання ў імперыю. Хутчэй за ўсё такога павароту спраў не здарыцца, і жыццё запатрабуе стварэння палітычных партый дэмакратычнага кшталту, без жорсткіх пракамуністычных метадаў арганізацыі і кіравання. Вось тут і паўстане пытанне аб перспектыўнасці "левых" ці "правых" у беларускай палітыцы.

З-за этнічнай кансерватыўнасці беларусаў, пэўнай замаруджанасці тутэйшых сацыяльных рэакцый левыя сілы яшчэ будуць мець значны ўплыў, хаця і сярод камуністаў можна заўважыць зрухі ад артадаксальнага бальшавізму ў бок сацыял-дэмакратыі. І ўсё ж больш перспектыў маюць тыя, хто называе сябе "цэнтрыстамі". Нездарма менавіта ў "цэнтры" назіраецца сёння вялікая міжпартыйная таўкатня, ледзь не бойка за "месца пад сонцам". Справа ў тым, што для крайне правых сацыяльная глеба на Беларусі пакуль не створана: няма моцнага класа буйных прамыслоўцаў, бізнесменаў, землеўладальнікаў, высокааплатных кваліфікаваных службоўцаў, чыноўнікаў, рабочых і г. д. Аднак хутка нарастае колькасць прадпрымальнікаў сярэдняй рукі, дробных камерсантаў, фермераў, гандляроў, наёмных работнікаў сярэдняга дастатку ды іншых патэнцыяльных прыхільнікаў сацыял-дэмакратыі і блізкіх ёй плыняў, якія прэтэндуюць на "сярэдзіну" палітычнага спектра. Такім чынам, быць правым у сённяшніх умовах — значыць, дзейнічаць на далёкую перспектыву, а быць у "цэнтры" — наблізіцца да ўлады ў бліжэйшы час.

Што ж тычыцца класічнага лібералізму, то, на маю думку, для Беларусі ён яшчэ менш прымальны, чым правы кансерватызм. Занадта вялікі аўтарытарны вопыт і цяжар таталітарызму пазбаўляе беларусаў магчымасці ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі стаць заўзятымі прыхільнікамі "поўнай свабоды і агульначалавечых каштоўнасцей". Палітычная, а тым больш сацыяльна-псіхалагічная эвалюцыя робіцца паступова, шляхам паэтапных змен у грамадстве. Першы з гэтых этапаў мы і назіраем зараз.

У цэнтры сучаснай беларускай палітыкі стаіць не барацьба партый, а... усяго адзін толькі чалавек — Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка. І гэта невыпадкова. Не будзь такога "бацькі", быў бы другі, але "павадыр" цяпер аб'ектыўна неабходны: большасць людзей не верыць у свае сілы, не можа рэалістычна ацэньваць сітуацыю і тым больш браць на сябе адказнасць сур'ёзных рашэнняў. На гэтым фоне ўзрастаюць спадзяванні на "адзіна-дастойнага, народна-абранага", надзеі на аўтарытарную асобу. Хай варыянт абрання быў не лепшы, але гэта ўжо хоць нейкі выбар, шлях у будучыню, і трэба прызнаць ягоную мэтазгоднасць. Асабліва на тле сённяшняй апатыі, абыякавасці многіх да свайго лёсу, нежадання рабіць нешта для яго змены.

Трэба прызнаць, што прамежкавы, таталітарна-"дэмакратычны" перыяд наўрад ці абыдзецца без "моцнай рукі". Праблема хіба ў тым, ці дастаткова разумнай будзе тая "рука", выкарыстае яна свой час для ўсталявання новых эканамічных і палітычных інстытутаў ці захоча збудаваць фамільную "бананава-бульбяную рэспубліку". Гарантам дэмакратычнага развіцця і павінны стаць палітычныя партыі, якія нават пад уціскам "вертыкалі" будуць набіраць сацыяльную вагу. І якім бы надпартыйным ні прадстаўляўся прэзідэнт, пасля вясновага "камуністычнага прагібу" ён мусіць зрабіць восеньскі рэверанс у бок "правых" ці, прынамсі, "цэнтрыстаў", бо эканоміку бальшавікі не пацягнуць (што даказаў і Лукашэнка). Тут трэба не магічныя лозункі "левых", а эканамічныя напрацоўкі і прагматызм дэмакратаў. Верагодна, гэта будзе адбывацца на фоне чарговага шоу з раздзьмуваннем брацкай любові, хваласпеваў "полному воссоединению" і г. д. Самае горшае, калі наш "бацька" ва ўмовах парламенцкага крызісу і гаспадарчага калапсу здасць беларускую эканоміку ў расійскія рукі. Такі "бартэрны" абмен дзяржаўна-эканамічных інтарэсаў на палітычныя ілюзіі ці ўласныя кар'ерныя спадзяванні — рэч малаверагодная, але цалкам не выключаная. Сп. Лукашэнка — чалавек занадта імпульсіўны, каб прадказаць ягоныя дзеянні на паўгода наперад.

У ўсё ж гістарычны гадзіннік Беларусі запушчаны, наш час пайшоў і немагчыма вярнуць яго назад ці проста спыніць. Ён не залежыць ад волі аднаго чалавека, а складаецца з імкненняў дзесяткаў і соцень тысяч тых, хто не згубіў надзею і веру ў сябе, у шчаслівы лёс сваёй радзімы, свайго народа.

**Васіль АЎРАМЕНКА**

*г. Магілёў*







*Малюнкі Л. РАЗЛАДАВА*

Пошта

# НЕ ДАМО ВОГНІШЧУ ЗГАСНУЦЬ

Хто калоў дровы, той ведае — найлепшы той удар, які рассякае палена якраз пасярэдзіне, папалам. Пры такім удары выкарыстанне энергіі аптымальнае, плоскасць сячэння перасякае валокны дрэва якраз па перпендыкуляры, і застаюцца роўныя палавінкі, з якімі справіцца ўжо лягчэй.

Такім чынам, у выніку рэферэндуму 14 мая 1995 года нашае грамадства было расколата амаль аптымальна: 48,4 працэнта нашых грамадзян пажадалі вяртання каланіяльнай сімволікі, 51,6 працэнта не пажадалі; 53,6 працэнта падтрымалі забойства беларускай мовы, 46,4 працэнта — не падтрымалі.

Аднак ведаць толькі гэтыя лічбы — гэта ўсё роўна, што не ведаць нічога. Важна ведаць тэндэнцыю, і, як мне падаецца, майстры адмысловых удараў яе ведаюць добра.

А тэндэнцыя гэтая ў тым, што чалавек становіцца нацыянальна свядомым не ў выніку дзеяння якіхсьці генетычных ці медыцынскіх законаў, а ў выніку самаадукацыі і разумовай працы.

Жыццё цяпер такое, што прымушае задумвацца кожнага — хоча ён таго ці не хоча. Прымусіць людзей надалей заставацца ў напаўжывёльным стане па ўзроўні разумовай дзейнасці становіцца цяжка. Таму новы ўдар згаданыя майстры хацелі б нанесці па магчымасці чалавека атрымаць веды па гісторыі сваёй краіны. Менавіта так паставілі пытанне ўдзельнікі "круглага стала", які прапанавала наша тэлевізія пасля двухразовага паказу найвышэйшага дасягнення афіцыйнай прапагандысцкай думкі — фільма знаўцы ўсходніх адзінаборстваў, па сумяшчальнасці рэжысёра Азаронка "Нянавісць". Адкормленыя паны, у тым ліку доктар гуманітарных навук, адкрытым тэкстам раіліся перад камерай аб тым, як і адкуль адрасціць тыя вушы, якімі можна было б засланіць сонца гісторыі сваёй краіны. Ды гэта марная справа. Нават у часы застою з падручнікаў, выдадзеных пад пільным вокам цэкоўскіх назіральнікаў, той, хто меў розум, мог вылушчыць крупінкі праўды з бруду маны і скажэнняў. Як не паварочвай гісторыю, ёсць факт, і ёсць каментарый да яго, і пры пэўнай рабоце розуму можна адрозніць адно ад другога.

Так што перспектывы ў такой дзейнасці няма, і, мабыць, згаданыя паны разумеюць гэта, і таму так спяшаюцца напоўніцу выкарыстаць цяперашні момант.

Першы ўдар атрымаўся ў іх удала. Цяпер будзем чакаць наступнага ўдару. Можна не сумнявацца, што ён будзе наўрад ці горшы па ўзроўні майстэрства. А потым, можа, і не трэба будзе больш расколваць — зробленага ўжо будзе дастаткова, каб пакласці загатоўленыя кавалкі ў печ.

Ды варта было б ім ужо зараз задумацца: а што потым? Ім варта было б задумацца, што ёсць люмпен, якога яны вырошчваюць таннай гарэлкай і не менш таннай прапагандай, і ёсць Бог, які не даруе ні ім, ні іхнім нашчадкам.

Эпіграфам, ці хутчэй пасляслоўем да гэтага тэксту я б хацеў паставіць словы з адной тэлевізійнай перадачы, якія я пачуў па першым канале расійскага тэлебачання ў 16.45 дваццаць дзевятага мая: "Не давай огню погаснуть. Пока он горит, звери не подойдут к нам". Так, гэта быў мультфільм. Выдае на тое, што ў бліжэйшым часе кавалачкі ісціны па тэлевізары можна будзе пачуць галоўным чынам у мультфільмах. І гэтыя простыя словы няхай будуць праграмай дзеянняў і суцяшэннем для тых, хто хоча ведаць, што рабіць і як жыць у надыходзячай цемры.

**Аляксандр УРБАНОВІЧ**

## АДЗІНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

**у нашай краіне, якое пастаянна трымае ў полі свайго зроку міжвыдавецкую серыю "Літаратурныя помнікі Беларусі", — "Полымя". Нягледзячы на цяжкасці, добра зразумелыя кожнаму выдаўцу, тут робяць усё магчымае (і немагчымае!), каб гэтая бібліятэчка пастаянна папаўнялася. Толькі што з'явілася яшчэ адна навінка — "Старонкі з блізкай даўніны горада Віцебска" М. Нікіфароўскага. Гэтая кніга хораша ўпісваецца ў выданні, што ўбачылі свет, дзякуючы "Полымю" ў згаданай серыі раней — "Люд беларускі. Вяселле" М. Федароўскага, "Падарожжа па Палессі і Беларускім краі" П. Шпілеўскага, "Вандроўка па маіх былых ваколіцах" У. Сыракомлі...**

## ЛЯ АГМЕНЮ "ОЧАГА"

**Часопіс "Очаг", які выходзіць у Маскве, разлічаны на сямейнае чытанне, і на яго старонках можна сустрэць самыя розныя матэрыялы, у тым ліку і адрасаваныя дзецям. Не выключэнне — і чарговы, пяты-шосты нумар "Очага" за сёлетні год. Пад рубрыкай "Дзіцячае чытанне: для сэрца і розуму" апублікавана вялікая (цэлы разварот) падборка вершаў Алеся Пісьмянкова ў перакладзе на рускую мову Мікалая Старшынава.**

## ПАДТРЫМКА З БЕЛАРУСІ... ЯСЕНІНУ

**Дарэчы, не першая... Як вядома, першыя публікацыі мала каму вядомага на той час Сяргея Ясеніна трапілі ў поле зроку не каго-небудзь, а выхадца з Капыля, знакамітага даследчыка, крытыка, публіцыста Л. Клейнбарта. Леў Максімавіч пазней успамінаў: "Па парадзе С. М. Кашкарава, у якога ён жыў, Ясенін і сам пераслаў мне сшытак сваіх вершаў. Ён пісаў мне, што родам з вёскі Разанскай губерні, што ў Маскве з 1912 года працуе ў друкарні Сыціна, што пачаў ён з частушак, затым перайшоў на вершы". Дзякуючы падтрымцы Л. Клейнбарта і пабачыла свет кніга С. Ясеніна "Радуница".**

**А падтрымка, пра якую ідзе гаворка цяпер, адбылася зусім нядаўна. Набліжаецца 100-годдзе з дня нараджэння вялікага рускага паэта. Вось і вырашылі ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" парадаваць прыхільнікаў яго таленту. Выйшаў двухтомнік выбраных твораў паэта. З густам аформлены, з прадмовай вядомага даследчыка творчасці С. Ясеніна Ю. Прокушава.**

**Гэтаму застаецца толькі парадавацца. І не лішне нагадаць, што некалькі гадоў назад тая ж "Мастацкая літаратура" выпусціла двухтомнік А. С. Пушкіна, што выклікала высокую ацэнку ў расійскіх культурных колах. Несумненна, падобны водгук знойдуць і кнігі С. Ясеніна.**

## "ПРАЛЕСКА", N 5

**У нумары — слова галоўнага рэдактара "Пралескі" А. Сачанкі "Нарадзіцца, каб ваяваць?", артыкул В. Клімовіча "Рэха перамогі", падборка матэрыялаў "Маленькія заложнікі вялікай вайны", нарыс З. Лысенкі "Жыццё як доўгі дзень", інтэрв'ю А. Сачанкі з загадчыкам Слуцкага гарадскога аддзела адукацыі М. Марачкоўскім "У Слуцку ўсё па-людску, аднак свае праблемы ёсць", іншыя матэрыялы, што тычацца работы слуцкіх педагогаў з дашкольнікамі. У прыватнасці, на развароце прадстаўлены ўзоры беларускага народнага адзення, зробленыя ў дзіцячым садзе N 4 "Буслік" С. Антонавай. Як вырашаюцца праблемы дашкольнага выхавання ў Лунінецкім раёне, расказвае П. Васючэнка ("Айсберг надзеі"). А. Бадак працягвае рубрыку "Маленькі чалавек у вялікім свеце" — "Як стаць чараўніком". А. Наркевіч выступае з артыкулам "Слоўнік мовы папаўняецца". У "Чытанцы "Пралескі" — апавяданне А. Паскробышава "Чарапашка".**

## ВЕЛЬМІ ДАРЭЧЫ

**з'яўленне ў серыі "Зрабі сам", якую выпускае выдавецтва "Юнацтва", кніжкі "Спі, сыночак маленькі". Уласна кажучы, пакуль і не кніжкі яшчэ, бо кніжку зробяць самі маленькія, калі папрацуюць з нажніцамі і па лініях, якія ўказаны, разрэжуць аркушы. Тады атрымаецца маляўніча аформлены мастаком М. Рыжым зборнічак, змест якога склалі легенды, калыханкі. Паболей бы такіх выданняў!**

# ТРЫ ЭСЭ

## ДОМ

Бывае на душы маркотна, асабліва восенню, калі ў акно стукаецца надакучлівы дождж, і тады я бяру ў рукі томік выбранага Яна Скрыгана, каб яшчэ раз перабраць старонкі аповесці "Кругі". Мне абавязкова прыпомніцца мой дзядзька Сымон, адмысловы будаўнік, па-сялянску мудры і працавіты чалавек. І мне заўсёды хочацца іх паставіць побач — знакамітага пісьменніка і вясковага цеслю. Бо я ўпэўнена: і адзін, і другі ўсё сваё свядомае жыццё хоць і паасобку, але ў нечым і супольна ставілі дом, дзе было б шмат сонца і добра жылося. Адзін майстраваў яго са слоў, што кранаюць і ўзвышаюць душу, а другі — з бёрнаў, якія свяціліся жывіцай.

Як мне расказвалі, у даўнейшыя часы дзядзька на некалькі тыдняў сыходзіў з хаты, дзе заставалася яго Ганула з дзецьмі, у суседнія вёскі, каб там ставіць новыя дамы. Увесь час, як ён любіў паўтараць, цёрся між людзей. Зведаў усяго. Кажуць, вельмі цікава было паслухаць яго жыццяпіс з яго ж вуснаў, часам вясёлы і жартаўлівы, а то і трагічны.

Нешта падобнае я адчуваю, калі чытаю аповесць Яна Скрыгана. Ладна выштукавана яна, як моцны сялянскі дом, у якім ёсць усё, што патрэбна для жыцця. І трывала стаіць той дом, бо мае невынішчальную аснову — родную зямлю.

Зусім абгрунтавана, што аповесць пачынаецца невялікім уступам "Памяць зямлі". Пісьменнік любуецца сваёй малой радзімай — Случчынай, крыніцай яго творчай сілы і натхнення. Ён заглядвае ў мінуўшчыну, каб давесці, што ў ёй моцныя карані сённяшняга дня. Яны ў той памяці, якую нясём з сабой, у нашым абавязку перад продкамі — захаваць і прымножыць усё лепшае. І яшчэ — збудаваць свой дом, больш светлы і багаты на дабро і чалавечае шчасце.

Аповесць сапраўды складзена, як сялянская хата. Чатыры кругі — як вянцы. Кожны падымае гаспадара вышэй і вышэй. Вобразна кажучы, да ціхага зорнага неба, пад якім трывогі, радасці, сумненні, спадзяванні, — словам, уся мудрасць і складанасць жыцця на зямлі.

Зірнём на першы вянец. Адгорнем першыя старонкі аповесці ("Парог"), дзе пісьменнік з нейкім глыбока асабістым, шчымлівым пачуццём светлага суму падае карцінкі далёкага дзяцінства. У ім было ўсё, што наканавана вясковаму хлапчуку. У турботах побач з бацькам ён адкрываў для сябе навуку жыцця. Калі пасвіў у лесе кароў, калі слухаў казкі падарожных людзей, калі прачытаў першы раз на календары друкаванае слова...

Мы бачым яго сям'ю, вялікую і дружную, і ў часіны радасці, і ў чорным горы. Мы хочам зразумець і суровую дабрыню бацькі, і стрыманую ласку маці, і няпросты лёс братоў і сясцёр.

Пісьменнік, перапыняючы "Парог", наўмысна ўводзіць у сямейны жыццяпіс апавяданні. Яны пашыраюць нам бачанне яго шляхоў-дарог, раскрываюць яго разуменне жыцця, тыя крыніцы, што жывілі творчасць. Скажам, апавяданне "Шорсткая дарога", пра трагічны лёс хлопчыка, якога на край свету разам з бацькам гоніць вайна. Толькі цуд адвёў ад яе жудасных жорнаў малога Янку Скрыгана.

Далей апавяданне "Пры вогнішчы", якое нібы замацоўвае першыя вянцы аповесці. Пісьменнік расказвае пра сустрэчу ў дарозе са старым чалавекам. Летняй ноччу яны ўдвух на лузе вядуць гаворку. Ён, малады, услухоўваецца ў кожнае слова падарожніка, і мне становіцца зразумелым: яму пашэнціла, калі ступіў на парог жыцця, вучыцца ў людзей сталых і вопытных, якія шмат ведалі і ўмелі. З імі лягчэй пазнаць сэнс нашага быцця, яны дапамогуць абмінуць ліха на жыццёвых пуцявінах.

Цяпер заходжу на другі круг, які мае назву "Світанак". Гэта той шчаслівы перыяд, калі расхінаюцца крылы для палёту.

То быў па-свойму адметны час, час працы ў рэдакцыі газеты ў Слуцку. Творчы світанак пачаўся ў спрэчках на літаратурныя тэмы. Побач сябра — бунтарскага складу паэт Паўлюк Шукайла, які спавядаў футурызм. Ён клікаў да новага мастацтва, якое адрынула б традыцыі. Ён хацеў новага, якое выключае ўчарашняе, нават калі яно вартае ўвагі.

У такіх вось варунках пачынаўся ён як мастак слова. Яго світанак не выдаўся бясхмарным. Але малады пісьменнік душой адчуваў, што цяжкасці непазбежныя, бо ён уступаў у новую паласу жыцця. І свайго, і краіны ў цэлым. Звыклы ўклад трашчаў і ламаўся.

Пасля Слуцка, дзе скасавалі акруговую газету, — Расоны. Як і ўсюды раней, сустрэчы з людзьмі, дружбацкія вечарыны з сябрамі і канфлікты з нядобразычліўцамі. Знаёмства са сталічнымі пісьменнікамі Кузьмой Чорным і Язэпам Пушчай. Першыя літаратурныя спробы. Першыя няўдачы — вяртаюць з "Маладняку" вершы як слабыя. Першы поспех — друкуецца апавяданне "Таіса", напісанае за адну ноч.

Аўтар разам з чытачом углядаецца ў світанак сваёй творчай біяграфіі. Няхай многае ў яго першых спробах цяпер здаецца наіўным, але было галоўнае — шчырасць, неадольнае жаданне авалодаць тайнай слова. І ён вучыўся. Перш за ўсё ў сваіх землякоў, у самога жыцця. Перадусім — пільная ўвага да чалавека, яго штодзённага побыту, дзе крыніца мудрасці і вялікага мастацтва. Як пацвярджэнне гэтаму — апавяданне "Смага". У ім напачатку ёсць малюнак гарадскога жыцця, невялікі аб'ёмам, але вельмі выразны. Падаюцца тыповыя прыкметы: мітусня, пыл, крык, грукат... Нават часам здаецца, што тут камандуе жалезная воля машын.

Аднак, як заўважае аўтар, ёсць яшчэ больш складаная сістэма — чалавек. Зразумець яго, раскрыць духоўнае аблічча — самае галоўнае. Пісьменнік у любой праяве жыцця, у кожным яго павароце шукае і адкрывае для сябе і чытача чалавека, што жыве побач з намі.

Каб сцвердзіць сваю думку прыкладам, аўтар згадвае такі выпадак. У шумным горадзе ён аднойчы сустрэў чалавека ў старой світцы, у лапцях. Аказалася, чалавек з Аршаншчыны. Там у яго сям'я і гаспадарка. А шукае ён, гнаны драматычнымі абставінамі, бальніцу, каб вылечыць дачку.

Чым не тэма для глыбокага мастацкага роздуму? Перад намі паўстае абагулены, як сімвал, лёс чалавека, што ідзе цяжкімі дарогамі жыцця.

Падымемся ўжо на трэці круг, назва яго — "Трывогі". Яшчэ адзін вянец, які падымае зруб вышэй. Я.Скрыган аглядае ладны кавалак свайго жыцця. Бадай, самы цяжкі, калі ён не займаўся літаратурнай працай. Так было наканавана, што давялося як выгнанніку сталінскага рэжыму пажыць у Сібіры, Узбекістане, Эстоніі. Ён перабірае ў памяці людзей, з якімі прыйшлося спаткацца, мець з імі тыя або іншыя дачыненні. Былі добрыя і злыя, шчодрыя і хцівыя, шчаслівыя і небаракі. Сустрэчы з імі ўзбагачалі, давалі вопыту, вучылі бачыць у чалавеку сутнаснае.

Нават у часіны болю і адчаю пісьменніка не пакідала вера ў чалавека. Яна памагала пераадольваць страты, зноў шукаць апору і знаходзіць яе ў нястрымным віры жыцця.

Святлом любові да простага чалавека струменіць апавяданне "Конны двор". Мы дазнаемся пра тых, хто быў побач у цяжкія дні: пра надзейнага сябра Алеся Піваварава, з якім давялося дзяліць кавалак хлеба і клопаты конюха; пра Паліну, жанчыну яшчэ яркай, але нейкай ціхай задумнай красы; пра брыгадзіра Сяргея Чаркашына, які зімой запрасіў да сябе кватараваць... З імі дзяліў усё. З імі сустракаў халадэчу сібірскай зімы, няшчодрую на цяпло вясну. З імі нёс свой клопат конюха на калгасным двары. З імі зжыўся, як з роднымі, і, калі прабіў момант ростані, было шкада і іх, і канбазы, і сіняга марознага неба над галавой, і нават ветру, што дзьмуў у той дзень...

Аднак у жыцця свае павароты. Яны выводзяць на круг чацвёрты. Можа, самы адказны, калі наступае пара сталасці, пара нейкіх падрахункаў. Калі ўжо трэба класці ці не самыя звонкія і сонечныя вянцы ў свой дом. Аўтар даў назву гэтаму кругу "Спасціжэнне".

Я б сказала так: аўтар даверліва хінецца да чытачоў, каб паказаць, што ён спасціг як пісьменнік, чым ён можа падзяліцца, узбагаціць іх духоўны свет. Сваім словам, думкай, памяццю, роздумам над сэнсам чалавечага жыцця.

Гэта надзвычай цікавы біяграфічны круг. У ім — сустрэчы з калегамі па пяры, аповяд пра сябе, спроба раскрыць сакрэты творчасці. Па-ранейшаму тая ж замілаванасць духоўным хараством чалавека, яго памкненняў і дзеянняў. Мы бачым знакамітых беларускіх пісьменнікаў, як бы разам з імі аглядаем нашу літаратуру, яе здабыткі і няўдачы, яе шляхі-дарогі.

Нарэшце, час ставіць над зрубам страху, што і робіцца ў раздзеле "Дакрананне", дзе ўжо чыста творчыя пытанні, на якія аўтар глядзіць з вышыні вопыту. Вобразна кажучы, з вышыні таго дома, які збудаваў сваімі рукамі.

Янка Скрыган дасказвае тое, што лягло з той ці іншай нагоды ў аснову яго думак пра літаратуру. Давайце толькі ўнікнем у сэнс назваў: "Пасляслоўе", "Тайны", "Шуканні". Тут тое, пра што разважаў у бяссонныя ночы, тут — дэталі, штрыхі, рыскі творчай манеры пісьменніка, — адным словам, самыя запаветныя сакрэты майстра.

З любасцю выштукоўвае ён свой дом-аповесць, упрыгожвае яго. Каб на вільчаку світанак будзілі птушкі, каб ліштвы радавалі вока госця і проста спадарожнага чалавека, каб у вокны заўсёды зазіраў цёплы сонечны прамень. Каб вабіў і гаспадара, і кожнага, хто да яго ідзе з добрым сэрцам.

Вось і перабраны старонкі аповесці. Мне здаецца, адбылася нейкая выпадковасць, што мой дзядзька, вясковы цесля, не сустрэўся з пісьменнікам Янам Скрыганам. Нават ёсць у тым несправядлівасць, бо яны, мне падаецца, хоць і розныя, але вельмі падобныя, блізкія па ўнутраным ладзе душы.

Аднак на момант дапускаю: яны сутыкнуліся на жыццёвай дарозе, прыселі на прызбе ля вясковай хаты. Закурылі. Ціха размаўляюць. Я неўпрыкмет падыходжу да іх, каб падслухаць мудрыя думкі, каб павучыцца, як у жыцці зрабіць нешта карыснае людзям. Не важна чым: словам ці справай. Толькі б дабрэй і лягчэй было людзям на роднай зямлі.

## ПАСТКА

Помню, гадоў з дзесяць таму была на Тураўшчыне. Летам, у час школьных канікулаў. Цудоўны край. Здаецца, адчуваеш дыханне сівой мінуўшчыны.

Неяк з бацькам пайшлі ва ўрочышча Залучча. Гэта там, дзе нізкая ў сваіх берагах Сцвіга трапляе ў шчырыя абдымкі імклівай, наравістай Прыпяці, каб несці рудаватыя воды ў Дняпро. Крок за крокам, і мы, захопленыя, ледзь не згубіліся ў высокіх шаўковых травах, яшчэ не кранутых вострай касой.

Раптам наперадзе, у нізовіне, у прагалах між двух дубоў, што верхавінамі гаманілі з небам, вострa блiснула блакітам азярына. Падышлі бліжэй, ашаломленыя такой нечаканасцю, і ледзь не з-пад ног пырснула, залапатала крыламі чародка качак. Быццам у крыштальным сподку, плёскалася неба, аточанае зялёнай асакой. Здалося, нават дубы падняліся на дыбкі, каб хоць адной галінкай зірнуць у чысты блакіт вады.

Я стаяла ў задуменні, узрушаная нечаканай сустрэчай з хараством прыроды.

Бацька мне расказаў, што ў ваколіцах толькі адна азярына захавала сваю цнатлівасць. Людзі верылі легендзе, быццам недалёка жыве знахар-лесавік, які пільнуе тутэйшы абшар. Зачэпіш што-небудзь — ён пакарае.

Пазалетась зноў была ў тых мясцінах. Хацелася пабачыць азерца, якое запала ў памяць сваёй непаўторнай прыгажосцю. Але мяне чакала глыбокае расчараванне. У той нізовіне кінуліся ў вочы сляды гумовых шын, якія глыбока ўрэзаліся ў зямлю. Быццам пачарнелі ад гора дубы. Не выпырхнулі з асакі дзікія качкі.

Мне потым расказалі, што тут лавілі рыбу нейкімі незнаёмымі прыладамі людзі з Мінска. Я адразу была жахнулася: дзе ж быў той лесавік? Ці пакараў ён варвараў? У той момант, скалянутая скрухай, я чамусьці паверыла: ён мог адвесці бяду. О, святая слепата, калі ёсць надзея толькі на цуд!..

І вось зноў мае думкі пра таямнічага насельніка лесу, які, думалася мне, можа ўсё. Цяпер — пасля прачытання аповесці Алеся Кажадуба "Лесавік".

У мяне такое зараз адчуванне, калі прачытанае асэнсавана: я па-іншаму ўспрымаю сваю старонку Беларусь, па-іншаму гляджу на несмяротную праблему чалавек — прырода, па-іншаму разумею прызначэнне чалавека на сваёй зямлі. Мне даражэй сталі і свежая зеляніна першага вясновага лістка, і някідкая краса лугавых кветак, і мутнаватая прахалода той жа Прыпяці, і сум птушак, якія з абжытых гняздоўяў ляцяць у далёкі вырай...

Проза

Янка СІПАКОЎ

# ПАЧАКАЛЬНЯ Ў ДОЖДЖ,

## або САБАКА ЭПОХІ РЭСТАЎРАЦЫІ КАПІТАЛІЗМУ



Ішоў дождж. Нягледзячы на тое, што стаяла самае лета на пачатку ліпеня, ён быў халодны і ўжо нейкі восеньскі, не кароткачасовы, як кажуць сіноптыкі, а аблажны, не летні, цёплы і парны, а сумны, нудны, надакучлівы.

Таму ў будынку вялікай, як стадола, і няўтульнай, як усе нежылыя, хоць і дужа людныя памяшканні, аўтобуснай станцыі сабраліся ўсе, хто чакаў сваіх ранішніх аўтобусаў.

Звычайна ў сонечныя дні тут бывае вельмі душна — стадола праграваецца як не да апошняга глытка паветра з самае раніцы, а ўдзень няма чым дыхаць — таму ўсе паязджане чакаюць на вуліцы, а сёння, як пахаладала, як задажджыла, людзі пачалі шукаць месца, дзе цяплей і сушэй.

Раней гэтая стадола мяне непрыемна ўражвала сваёю пустатою. Нават тады, калі ў ёй было шмат народу, яна ўсё роўна здавалася парожняю-парожняю. Можа, таму, што столь у ёй была вельмі высокая — як паглядзіш угору, дык аж шапка з галавы валіцца, — а, можа, ад вялізных, на ўсю сцяну, да самай столі вокнаў, што ўверсе стварлі вялікую, незапоўненую прастору. Занятая ўнізе метры на два — там варушыліся, мітусіліся, кішэлі людзі, — яна на ладны дзесятак метраў была зусім пустая ўгары. Часам заляталі ў яе вераб'і ці галубы, яны ляталі бясшумна пад столлю і зусім не заміналі, калі хто хацеў вызваліцца ад натоўпу, падняць галаву і быць адзінокім, самотным сярод чалавечай мітусні.

Была раніца. У Віцебск я прыехаў начным цягніком вельмі рана і зараз чакаў першага аўтобуса ў бок Езярышча. Раней за ўсіх ішоў туды вялікалуцкі, але білета на яго я не купіў: Невель, Вялікія Лукі — гэта ўжо Расія, замежная краіна, і ўсе білеты на гэтыя аўтобусы загадзя расхопліваюць мяшэчнікі. Ехаў я неяк вялікалуцкім, далі мне ў касе білет без месца, але ў ім нават стаць не было як — усе праходы, сядзенні, усе больш-менш прыгодныя для гэтага месцы былі забіты, завалены рознымі мяшкамі, торбамі, чамаданамі, цюкамі, пакункамі, напоўненымі матрацамі — беларускія "бізнесмены" везлі ў суседнюю дзяржаву нашы тавары.

На гэты раз я сядзеў і чакаў свайго, езярышчанскага.

У пачакальні было вельмі многа народу. Людзі таўкліся, мітусіліся, штурхаліся, не заўсёды ўдала размінаючыся адно з адным, ад няма чаго рабіць падоўгу стаялі перад раскладам руху аўтобусаў, разглядалі карту вобласці з лініямі аўтадарог на ёй, нудзіліся ў чэргах ля кас, сядзелі, дзе хто мог, і стаялі каля сваіх сумак і авосек.

Мне таксама не было чаго рабіць. І я пачаў разглядаць пасажыраў — а куды ж яны, не зважаючы на дождж, едуць?

Большасць, канечне, ехала на свае дачы — была якраз субота, і тыя, хто па нейкіх прычынах не змог паехаць у пятніцу, спяшаўся да сваіх градаў і хатак сёння. Яны былі апрануты як працаваць, везлі з сабою ежу на адзін ці на два дні ў легкаватых сумках і авоськах.

Вылучаліся з натоўпу і грыбнікі — у штармоўках, у гумовых ботах, з парожнімі кошыкамі. Звычайна бываюць розныя спрыяльныя гады для розных грыбоў: год баравікоў, год апенек, год лісічак... Сёлета ж, я ўжо ведаў, быў год падасінавікаў — як пачаліся яны з таго часу, калі з'яўляюцца першыя грыбы-каласавікі, так яшчэ і не скончыліся і хутчэй за ўсё не скончацца аж да самай восені. Яны, прыгожыя, чырвонагаловыя, крэпенькія, папавыйшлі нават на сенакосы, і я быў упэўнены, што ўсе вось гэтыя людзі, якія едуць у лес, вернуцца дадому з поўнымі кошыкамі.

Была яшчэ няпэўная катэгорыя пасажыраў — хто ў госці, хто на працу, хто з гасцей, хто з працы, — але яна не ствярала нейкай сваёй адзінай групоўкі, а раствралася між іншымі.

І толькі "бізнесмены", а па-старому проста спекулянты, трымаліся асобнаю, сваёю групкаю. Звычайна яны ўсе свае панапханыя сеннікі і матрацы складаюць на вуліцы, на платформе, да якой павінны падаць аўтобус, а сёння дождж, як і ўсіх, загнаў іх у будынак станцыі — не будзеш жа раскладацца пад дажджом, замочваць тое, што вязеш прадаваць.

Калі стаміліся вочы глядзець, а вушы слухаць, калі надакучыў увесь гэты тлум і галас, я міжволі, але з нейкаю надзеяй падняў галаву ўгору і над людскім натоўпам, нібы вырываючыся з яго, угледзеўся ў шыбы пад самаю столлю. І адразу ж стала ціха-ціха, быццам хто выключыў увесь вакзальны шум, і душы стала спакойна і прасторна — як усё роўна абтросся ад усяго, што ўнізе, і сам перамясціўся ў незапоўненую, парожнюю прастору.

Сядзеў доўга, маючы асалоду нават тут адчуваць сябе адзінокім — я і праўда, нібы ўзлунаўшы пад столь, быў адзінокі і сцішаны сярод вакзальнага шуму і тлуму.

Думаў, што вось еду касіць, а тут ліе такі дождж, які хутчэй за ўсё не хутка скончыцца, што я буду сядзець у хаце і перажываць — касіць то можна, але ж як высушыць скошанае: пагніе...

І ўвогуле, думаў я, ёсць нейкі абсурд у гэтай маёй касьбе — каровы няма, есці сена няма каму, а я ўсё кашу, сушу, здаю ў калгас...

Але ж якая радасць і шчымлівае, непаўторнае хваляванне запаланяе мяне ўсяго, калі набліжаецца гэтая светлая пара, часіна, якой я, аказваецца, чакаю ўвесь год. "Я еду касіць", "касіць, касіць, касіць", — з якім трымценнем і радасцю прамаўляю я тады гэтыя словы і ўжо ўяўляю звыклую дарогу да касы.

Цікава, ці будзе сёлета лавіць рыбу на Лосвідзе той самотны рыбак, які заўсёды, у любое надвор'е ціха сядзіць у сваёй гумовай лодцы якраз пасярод возера.

Я люблю тады сядзець каля акна і сцішана глядзець праз шыбы — на дарогу, на прысады каля яе, углядацца ў далячынь, якая табе, праязджаніну, здаецца мройліваю і зваблівою.

Ведаю, што і сёння буду чакаць Лосвіда, углядацца, каб убачыць таго завочна знаёмага рыбака, які ў ранішняй шэрані, пад дажджом, канечне ж, будзе сядзець пасярод возера. І яшчэ мне, як заўсёды, будзе карцець даведацца, пра што ж ён думае на такой адзіноце, што гоніць яго і што змушае ў такі дождж веславаць сваю лодку на сярэдзіну возера...

Вывеў мяне з гэтай раўнавагі сабачы брэх. Я, усё яшчэ знаходзячыся ў сваім нібы ўзважаным стане, не апускаючы галавы ўніз і не адводзячы вачэй ад шыбаў пад столлю, прыслухаўся. І праўда, непадалёку брахаў сабака.

Вярнуўшыся, нібы ўпаўшы, на зямлю, я ўбачыў яго: невялічкае, чорнае сабачанё з гладкаю, нібы прылізанаю поўсцю — мусіць, яго зусім нядаўна выкінулі гаспадары — сядзела перад хлопцам, хутчэй за ўсё студэнтам, які нагнуўся над сваёю сумкаю, і брахала нейкім дзіўным, нібы двайным брэхам:

— Гаў! Гаў! — крыху памаўчыць, а тады зноў: — Гаў! Гаў!

— Чаго ты, сабак, брэшаш на мяне? — ушчуваў яго студэнт. — Я ж табе нічога дрэннага не зрабіў. Перастань, а то надаю па вушах...

— Не чапай яго, — умяшаўся дзядзька, што сядзеў на лаўцы насупраць. — Гэта ж ён так у цябе есці просіць. Ты палез у сумку, а ён падумаў, што за ежаю.

— Няма ў мяне нічога, сабак. Гэта я проста сумку зашпіліў лепей. Каб дождж сарочкі не замачыў.

І сабачка нібы зразумеў яго. Падхапіўся і пабег у другі бок — там хтосьці, адкрываючы сумку, шмаргануў "маланкаю".

Сабачка быў дужа шустры, бегаў ён дужа хутка — тэп, тэп, тэп, тапу-тапу, тапу-тапу.

Стаў перад тым ужо чалавекам, віляе хвосцікам:

— Гаў! Гаў!

Чалавек дастаў з сумкі кнігу. І сабачка, убачыўшы, што так абмыліўся, расчаравана апусціў вочы долу, але тут жа, навастрыўшы вушы, пачаў, усё яшчэ віляючы хвосцікам, прыслухоўвацца, ці лезе яшчэ хто-небудзь у сумку, ці не збіраецца хто перакусіць.

Дзядзька ў падраным, залапленым пінжачку, той, які толькі што тлумачыў студэнту, чаго брэша сабака, сам неасцярожна палез у сваю кайстру. І сабачка тут жа прыбег да яго. Сеў на заднія лапкі, загнуў хвост угору — акурат чорны банан — і напружана, нецярпліва сочыць за дзядзькавымі рукамі, якія корпаюцца ў кайстры.

— Гаў! Гаў!

— А сынку ты мой! — нечакана ласкава азываецца да яго дзядзька. — А ў мяне ж таксама няма чаго табе даці. Пенсія не прыйшла, а хлеба без яе не купіш. Нічога няма. Хіба во толькі бульбіна... Дачка во, я ад яе еду, купіла на рынку маладой бульбы, мне троху ўсыпала... Паспрабуй, кажыць, бацька...

І дзядзька дастаў з кайстры бульбіну і, нібы апраўдваючыся, паказаў сабаку. Той лізнуў бульбіну, лізнуў дзядзькаву руку і зноў сядзіць, глядзіць у вочы:

— Гаў! Гаў!

— А хто ж цябе такога прыгожанькага выкінуў? — як не плача, жаласлівіцца дзядзька і казыча сабаку між вушэй, гладзіць яго па чысценькай поўсці.

Сабачку, мусіць, і праўда выкінулі нядаўна — ён яшчэ не паспеў зблажэць, збрыдзець, апаршывець, калі ўжо, чэшучыся, здзіраюць зубамі са спіны разам з поўсцю і скуру. Пакуль што ён быў усяго толькі худы і згаладалы.

Дзядзьку, усе бачаць, пагуляць з ім хочацца, а сабачку не да гульні: ён есці хоча! І ўсё ж бывае і прытуліцца да дзядзькавага пінжака, мокнецца пыскаю ў дзядзькаў твар — нібы разумее, што дзядзька не вінаваты, — а тады адхінецца і зноў у вочы глядзіць:

— Гаў! Гаў!

Аднекуль прыбегла малая дзяўчынка з ледунцом у руках — цукерка была на палачцы, і дзяўчынка, нібы дражнячыся, з асалодаю лізала яе з усіх бакоў.

Сабачка адразу ж кінуўся да яе, сеў зусім блізенька. Віляе хвосцікам і глядзіць у вочы. Ды так ужо глядзіць, што, здаецца, яшчэ трошкі — і ён вырве гэты ледунец з дзіцячых ручак. Дзяўчынка аблізвае ледунец, а сабачка сам аблізваецца. Аблізне пыску язычком і зноў цярпліва сядзіць, віляе хвосцікам. І напружыўшыся — увесь увага — глядзіць на дзяўчынку.

— Гаў! Гаў! — просіць.

Але дзяўчынка нават і не думае дзяліцца з ім.

Падыходзіць яе маці — маладая яшчэ жанчына, просценька так апранутая: відаць,даношвае ўсё са сваіх старых, а можа, ужо і чужых сукенак.

— Дай сабачку, — кажа яна дачцэ.

— Ай, я сама хачу, — адмаўляецца дзяўчынка.

Само сабою сціскаецца сэрца — як усё роўна хто душыць цябе: разумееш, што дзяўчынка не дае сабачку цукеркі не таму, што яна такая дрэнная ці скупая, а таму, што сама, мусіць, вельмі рэдка бачыць нават такія просценькія прысмакі, як гэты ледунец на палачцы.

— У беднай маці не можа быць багатая дачушка, — нібы сам сабе, калі пабегла малая і пайшла яе матуля, сказаў стары ў залапленым пінжаку.

— Пакуль не вырасце, — паправіў яго хтосьці ззаду.

Я ўжо шкадаваў, што адмовіўся ад зсабойкі, якую мяне змушалі ўзяць дома.

І раптам сабачка сарваўся з месца і, хутка-хутка тэпаючы тонкімі, худымі ножкамі — тапу-тапу, тапу-тапу — кінуўся не ўслед за дзяўчынкаю і яе маці, а зусім у другі бок.

Я ды, можна сказаць, і іншыя пасажыры, якія сядзелі ў гэтай палове пачакальні, ужо з цікавасцю сачылі за сабачкам. А ён, паспешліва абабегшы лаўку, якая замінала яму, не давала ляцець напрамкі, паімчаўся да старэнькай бабулі, што ў завязанай пад бараду хусцінцы сядзела далекавата ад нас.

Яна якраз дастала з вузельчыка невялікую скібку хлеба, разламала на дзве палавіны, каб зручней, бяззубай, есці, і ўжо выцірала ражком хусцінкі рот перад тым, як пачаць сняданне. Дзіўна, адкуль пра гэта здагадаўся сабачка — убачыць ён гэтага не мог, бо сядзеў якраз вачыма да нас. Можа, па нейкім шораху, які змог пачуць толькі ён, можа, па паху, які і здалечыні вылавіў яго згаладалы нюх.

Але да бабкі сабачка не дабег. Тая, убачыўшы, што ён бяжыць да яе, махнула на яго рукою, і сабачка, як бег, так і сеў зводдалек. Сядзеў, віляў хвосцікам, аблізваўся і, нецярпліва пераступаючы пярэднімі лапкамі, нібы танцуючы, глядзеў, як бабулька есць хлеб. Толькі памкнецца да яе, а яна зноў нязлосна махне рукою, і ён паслухмяна застанецца на месцы, зноў сядзіць, перабірае лапкамі, аблізваецца.

А старая нічога яму не дае. Было відаць, што ён не злуецца на яе — быццам і сам ведае, што гэтая разламаная скібка, якую бабулька есць з дзвюх рук ні з чым — хлеб з хлебам — можа быць у яе апошняя.

Але толькі здавалася. Раптам — я і сам не заўважыў, як гэта адбылося — сабачка стрымгалоў, маланкаю — бабулька нават рукою махнуць не паспела — кінуўся да яе, выхапіў з рукі кусаннік і тут жа, здаецца, нават не жуючы, праглынуў яго.

І не кінуўся ўцякаць, а, наадварот, зноў сеў перад старою, зноў, нявінна аблізваючыся, сучачы лапамі, праведна глядзеў бабульцы ў вочы — быццам нічога і не здарылася.

Бабулька на яго таксама не пакрыўдзілася. Замест таго, каб раззлавацца, разгнявацца, пачаць сварыцца, а то і біць сабачку — апошні ж хлеб украў! — яна рассмяялася сваім бяззубым, сабраным у маршчыны, ротам:

— Во нягоднік. У малой цукерку не адабраў, а ў мяне, старой, апошні кусаннік з рук выхапіў. Бачыць, старая баба, ёй і паміраць ужо можна.

Усе, хто назіраў за гэтым, з палёгкаю ўздыхнулі. А сабачка ўсё сядзеў перад старою і глядзеў, як яна даядала тое, што асталося.

Толькі цяпер я ўбачыў яшчэ двух, ужо вялікіх і калматых, нечасаных, пацертых рынкам сабак — чорнага і папялявага. Яны грэбліва стаялі ўбаку і спакойна назіралі за тым, што тут робіцца. І было незразумела, ці то яны, паважныя і спакойныя, асуджаюць сабачку за дробязныя паводзіны, ці то зайздросцяць яму.

Студэнт, які сядзеў побач са мною, раптам, нібы прачнуўшыся — толькі што ён, як і ўсе, сачыў за выхадкамі сабачкі, — зірнуў на гадзіннік, паспешліва падхапіў за ручкі сумку і пабег да выхаду: відаць, ужо спазняўся на аўтобус. А на яго месца адразу ж гэпнулася сярэдняга веку маладзіца ў чырвоных гумовых ботах, у зеленаватай штармоўцы, у чорным трыко, з амаль парожнім кошыкам у руках, дзе ляжала толькі нешта ў вузельчыку.

Жанчына, якая яшчэ не паспела ўбачыць сабачку і не ведала, што ён падбягае да кожнага, хто нешта дастае ці развязвае, адразу ж паставіла кошык на калені, распаійстрыла вузельчык, дастала бутэрброд з каўбасою і ўзялася есці — мусіць, спяшаючыся ў грыбы, не паспела паснедаць дома.

І тут жа якраз перад ёю з'явіўся сабачка. Прыбег, прысеў на заднія лапы і вельмі ж эмацыянальна пачаў віляць хвосцікам.

— Гаў! Гаў!

Гэтая просьба яго была дабрадушная, нават ласкавая, і жанчына зразумела яе як прывітанне, як знаёмства.

Сабачка ж сядзеў, яшчэ больш нецярпліва перабіраў лапкамі, пільна глядзеў на жанчыну, сачыў, вадзіў вачыма за кожным рухам яе рукі з бутэрбродам і ўтрапёна аблізваўся.

— А, дык і ты есці хочаш, — загаварыла да яго жанчына, дастала з кошыка кавалак хлеба і кінула сабачку пад ногі.

Але той толькі паглядзеў, куды ўпаў хлеб, але не кінуўся хутчэй яго есці — сядзеў, як да гэтага, віляў хвосцікам і брахаў:

— Гаў! Гаў!

— Во, панота, ён ужо, бачыце, хлеба есці не хоча, — зазлавала грыбніца. — Значыць, ты, мой родненькі, не галодны. Як прагаладаешся, тады і прыбягай.

Жанчына ўжо нагнулася, каб падняць той кавалак хлеба, які кінула на падлогу, працягнула ўжо руку да яго, а сабачка тут жа хуценька паставіў лапу на хлеб і зноў брэша:

— Гаў! Гаў!

Грыбніца разгубілася:

— І сам не есць, і другім не аддаець...

— Гэта ж ён у цябе яшчэ просіць. Бачыць, што таго, які ты кінула, мала будзіць, — усміхнуўся дзядзька ў залапленым пінжаку.

Жанчына недаверліва паглядзела на дзядзьку, а тады зноў на сабачку.

— А я думала, ён брэшыць, што не тое дала...

(Працяг на стар. 12)

працоўе), дык узровень арганізацыі фестывалю і прыёме яго гасцей, удзельнікаў падаўся салодкім сном пасярод жыццёвага хаосу. "М-да, — падумалася, — горадам кантрастаў можа быць не толькі Нью-Йорк..."

Натуральнае ў такой сітуацыі пытанне адпала само сабою, бо начальнік упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры і друку, старшыня аргкамітэта Тадэвуш Стружэцкі назваў салідных спонсараў фестывалю — Віцебскае аддзяленне Беларускага фонду Сораса ды фірму "Паліфакт". Арганізатары, вядома ж, асноўную частку фундацыі ўзялі на сябе, Пастаўскаму райвыканкаму, напрыклад, гэта абышлося ў 50 млн. рублёў.

Тым часам 16 лепшых самадзейных калектываў з Беларусі, госці з Польшчы, Расіі ды Украіны, больш як 20 індывідуальных выканаўцаў чакалі ўрачыстасцей на плошчы. У прызначаны для афіцыйнага адкрыцця час азваўся нечаканы госць — дожджык. Праўда, лёгкі, амаль сімвалічны — відаць, на шчаслівую дарогу святу. Так што ўсё адбылося паводле сцэнарыя: шэсце дэлегацый,



якія выстраілся на плошчы ў маляўнічае кампактнае карэ, узняцце фестывальнага штандару з эмблемай, прамовы, канцэрт-прэзентацыя перад не надта шматлікай публікай. (Аказалася, абачлівы народ у гэты час ужо займаў месцы ў Доме культуры "Пятага гарадка", дзе неўзабаве мусіў пачацца конкурс "Хто каго").

•

Ганарыстыя "Палешукі" — лідэр сярод удзельнікаў леташняга фестывалю і ганаровы госць сёлетняга — рыхтаваліся да свайго вечаровага выступлення на плошчы. Усе іншыя рушылі да "Пятага гарадка". З транспартам пашанцавала не кожнаму. Вядучыя праграмы актрыса Галіна Кухальская ды супрацоўнік Міністэрства Алег Скарына саматугам адолелі пэўную колькасць кіламетраў, з прыгожымі сваімі сцэнічнымі касцюмамі ў руках. Я таксама дабіралася пешкі, таму, уладкаваўшыся, нарэшце, у зале, наважылася адбіваць атакі стомы ды сну... Але дарэмна! Свята, здаецца, дасягнула сваёй кульмінацыі, захапіла, прымусіла забыцца на стомленасць.

Выходзілі на сцэну дзеці ды бабулькі, музыкі-самавукі ды амаль прафесійныя гурты, у якіх іграе адукаваная моладзь. Тут была магчымасць выступіць кожнаму і выступаць "хто как хаціт". Спаборніцтва эстэтычных уяўленняў, спаборніцтва густаў, спаборніцтва самых розных праяў індывідуальнай і масавай культуры... Васьмігадовая дзеўчынёха спявала: "Мой миленочек хорош — на учителя похож: как оденет пиджачок — настоящий дурачок!" Старэнькі дзівак сюррэалістычна брэнькаў на балалайцы, адначасова дзьмухаючы ў губны гармонік, калоцячы нагою ў бок барабана, трасучы бразготкамі. Аматар "вясковай эротыкі" выдаў цэлую нізку прыпевак, тыпу:"Людачка-яўрэечка, скажы мне, сколькі ўрэмечка!"

Журы — а гэта маэстра Міхась Дрынеўскі ды Міхал Казінец (старшыня), прарэктар Беларускага інстытута праблем культуры Мірон Була, дырэктар Мінскага музвучылішча Валеры Башура, вядомы педагог Валянціна Трамбіцкая ды іншыя спецыялісты, — мусіла слухаць. І мела права карэктна, зважаючы на ўзрост, энтузіязм, шчырасць памкненняў выканаўцаў-аматараў, вырашаць: "хто каго?" і "што каму". Зважала журы і на рэакцыю публікі, бо сімпатыі гледачоў у народным мастацтве і ёсць сапраўдныя "лаўры", адзнакі прызнання і любові.

Між іншым, публіка з першага позірку "ўкахалася" ў гасцей з Украіны — фальклорны ансамбль "Прыкарпацце", што з Івана-Франкоўскай вобласці. Артыстычнага, дасціпнага круглатварага саліста Ігара Назарука проста не хацелі адпускаць са сцэны. "Шо, мало?.. Ма-ало?!" — гучна дзівіўся ён. — "Хлопцы, давай!" І я магла ўздыхнуць з палёгкай.

•

"Уздых з палёгкай" мушу патлумачыць. Рэч у тым, што яшчэ да пачатку фестывалю было зроблена размеркаванне прадстаўнікоў прэсы, журы ды аргкамітэта на выязныя сустрэчы. Карэспандэнт "ЛіМа" мусіў суправаджаць менавіта ўкраінскі калектыў. Ад крамольнай думкі: "А што калі яны не спадабаюцца?" я не паспела звар'яцець якраз таму, што своечасова пабачыла конкурснае выступленне "Прыкарпацця". Гэта аказалася проста здорава! Радасна ўздыхнуўшы і адбіўшы ладкі, я пасляшалася на вуліцу, хаця да канца конкурснага канцэрта было далёка. Мы мусілі адразу ж ехаць у няблізкі калгас імя Заслонава.

Дарожная размова — класічны спосаб знаёмства. Кіраўнікі калектыву Міраслаў Марцынкіў, Дзмітры Мацэшак ды Пётр Цыбій не ўстрымаліся ад бліц-пытанняў наконт статуса газеты, якую я прадстаўляю, наконт нашай незалежнасці ды вынікаў рэферэндуму... Мне было прыемна, што газета творчай інтэлігенцыі выклікала давер у рупліўцаў народнай творчасці блізкага нам народа. Было прыемна пачуць добрыя словы пра беларускія ансамблі, выступленні якіх давялося паглядзець гасцям. А яшчэ яны захапляліся якасцю беларускіх шасейных дарог і.. хвалілі танны бензін, што ў вялікіх аб'ёмах паступае на Украіну з Галандыі.

Галасістая чарнявая Галя расказвала мне пра дзівосны край Прыкарпацце, пра складанасці яго геапалітычнага становішча і "гістарычныя прэтэнзіі" з боку замежных суседзяў, якіх вакол заходнеўкраінскіх абласцей больш, чым у нас. Гаварылі, канечне, і пра ансамбль "Прыкарпацце". Калектыў салідны, працуе пры Доме культуры, мае 30-гадовыя традыцыі. У складзе — 40 чалавек, у тым ліку 8 танцавальных пар. Вакальная капэла, аркестр ды танцоры аб'ядналіся, каб выступаць ды ездзіць на гастролі ўсім разам, а не па чарзе. Тым болей, што сярод самадзейных артыстаў ёсць універсалы, якія і спяваць, і танцаваць, і на розных інструментах іграць умеюць.

Мяне ўразіла тое, што пасля выступлення, толькі-толькі рассеўшыся ў аўтобусе, украінцы адразу ж заспявалі. "Дык мы ўвесь час пяём, усміхнулася Галя. — Не, голас не стамляецца, наадварот. Гэта для нас — проста так, само сабой: хлебам не кармі — толькі паспяваць дай..."

На жаль, у калгасным клубе ўкраінскім гасцям, якіх ужо чакалі вяскоўцы, давялося з дыпламатычнай стойкасцю "праглынуць пілюлю": сваю маляўнічую праграму яны былі вымушаны паказваць... у паўзмроку. Толькі над самай авансцэнай гарэўварты жалю радок лямпачак (і тыя давялося гаспадарам залы спешна шукаць — купляць ездзілі ажно ў Мінскую вобласць!). Адступіш крок углыбіню — і цёмна. Пра гукарэжысуру складанай партытуры ансамбля размовы ўжо не было: адзін мікрафон, і той няспраўны. Тут яшчэ наляцела навальніца, за вокнамі зрабілася чорна ад хмар і залевы, дрэвы гнуліся долу, мітусіліся перапужаныя птушкі. У гэтыя хвіліны (як я потым даведалася ад калег-журналістаў) паўсюль, дзе выступалі ўдзельнікі фестывалю, былі перабоі са святлом. Але нашаму "дэсанту" пашанцавала як нікому.

Ды канцэрт артысты "Прыкарпацця" правялі з годнасцю. Танец, спеў; маляўнічы інструментальны абразок, "расфарбаваны" тэмбрамі каларытных вялізных венгерскіх цымбалаў, скрыпак, флейты, кантрабаса; імпульсіўна-рытмічныя, аздобленыя "ўсходнімі" храматычнымі інтанацыямі тэатралізаваныя прыкарпацкія каламыйкі, — усё спляталася ў адмысловыя мастацкія карункі. А саліст Ігар Назарук і тут зрабіўся ўлюбёнцам публікі! Да ўсяго ён прачытаў некалькі ўкраінскіх баек — і ўсё было зразумела нават прысутным падлеткам.

Спецыяльна да візіту на Беларусь падрыхтаваная наша родная "Чорна галка" прыгожа "пракацілася" на хвалі багатых украінскіх галасоў. Прэм'ера песні мела поспех. Адно шкада, што вяскоўцы не змаглі разгледзець сцэнічныя ўборы, падзівіцца на хараство і багатую аздобу непаўторных гуцульскіх строяў.

Традыцыйны беларускі пачатунак у калгаснай сталоўцы неяк сам сабою ператварыўся ў шчодрае сяброўскае свята. Спачатку заспявалі папулярную ўкраінскую "Нэсэ Галя воду". Ды аказалася, што імёнамі герояў гэтай народнай песні завуць... старшыню калгаса і ягоную жонку! Такая неспадзеўка настроіла ўсіх не толькі на вясёлы, але й на вясельны лад. І пайшло! Нездарма ж госці сядалі за стол з гармонікам ды барабанам. Далучыўся са сваім акардэонам і дырэктар мясцовага Дома культуры Альфонс Грынько. "Жарылі" гарманісты і па чарзе, і дуэтам. Барабан "быў трэцім". А які атрымаўся аркестр!

Скокі змяняліся танцамі-гульнямі — "Галубкай" з выкананнем жартоўных каманд тамады для "галубоў" і "галубак", "Хусцінкай" з пошукамі пары ў агульным карагодзе... Госці аказаліся спраўнымі вясельнымі універсаламі: кіравалі бяседай, спявалі застольныя песні, акапэльныя канты, гралі, падмяняючы адно аднаго за інструментам, нават не парушаючы рытму гучання. Падхоплівалі беларускія песні, дапамагалі асвоіць свае...

Хлопец Ваня, які аказаўся па суседстве, два гады адслужыў у кіеўскім вайсковым ансамблі, мае добры бас, чытае ноты з ліста, валодае кларнетам і саксафонам (пасля звычайнай ДМШ), прыгожа танцуе, а па прафесіі — электрык. Спяваў ды скакаў безупынку, а назаўтра яшчэ збіраўся разам з усёй капэлай у пастаўскую царкву на літургію — бацюшка дазволіў паспяваць на ранішнім набажэнстве. (Да слова, амаль усе ўдзельнікі "Прыкарпацця" — грэка-каталікі).

Куратар "Прыкарпацця" Людміла трывожылася, каб не змарыліся госці, настойвала вяртацца ў горад, бо набліжалася раніца, дзень меўся быць напружаны, — а тыя, відаць, гралі б і суткамі.

"Моцны народ!" — ціха, і мне падалося, трошку зайздросліва, выгукнуў нехта з беларусаў, гледзячы на нястомных гасцей, якія ад душы весяліліся самі ды "заводзілі" гаспадароў. Так, яны — народ. Прыгожы, самастойны, гартаваны. Па-братэрску спагадлівы да нас. Народ, які захаваў у сабе здаровы незалежны дух. Дужы народ, які таксама нясоладка жыве ў "наш" час і які заўсёды будзе жыць побач.

•

На гасцінічны ганак я ступіла пад світальныя песні салаўя. Пачыналася нядзеля, трэці фестывальны дзень.

У цэнтры падзей быў, вядома, заключны канцэрт, абвяшчэнне вынікаў, уручэнне ўзнагарод. Файны гарадскі парк, стракаты люд, па-святочнаму апранутыя дзеці, якія разпораз падхопліваліся, знікалі, каб з'явіцца на пагорачку "зялёнага" амфітэатра з чарговым бананам, з новай порцыяй марожанага, са свежай жуйкай у кулачку — і засяроджана ўтаропіцца ў відовішча на пляцоўцы. Гледачы сталейшыя пазаймалі лавачкі. Аматары пашпацыраваць туліліся да гандлёвых шапікаў або вывучалі прымацаваныя сям-там да хвояў шчыткі з выслоўямі, накшталт: "Той не плача, хто песні пяе".

Да пачатку канцэрта ў парку працаваў яшчэ й "Горад майстроў" — тут можна было падзівіцца на вырабы ганчароў, вышывальшчыц, ткачоў, рэзчыкаў, прымерыць залацістыя брыль, падзьмуць у свістульку. Кірмаш народных умельцаў Віцебшчыны прыцягнуў нямала пакупнікоў, таму самае цікавае хутка пазнікала з выстаўкі, трапіўшы да новых уладальнікаў...

А вось канцэрт належаў усім. Тым нават, хто прыладзіўся яго слухаць убаку ад сцэнічнай пляцоўкі.

І трэба ж — дождж! І не абы-які! Але праграма не перапынілася ні на хвілінку. Асабліва дасталося маім сябрам з "Прыкарпацця" — дождж адхвастаў так, што ручаі па адзенні беглі, дасталося і далікатным скрыпкам, і унікальным старадаўнім венгерскім цымбалам... Але варта было пацярпець! Аказалася, што з усіх трох замежных калектываў-удзельікаў, пароўну адзначаных памятнымі прызамі, толькі ансамбль з Украіны атрымаў званне лаўрэата, дый вусаты сімпацяга Ігар Назарук займеў тое, што заслужыў: прыз глядацкіх сімпатый.

Цяжка назваць колькасць усялякіх адзнак ад журы, арганізатараў і спонсараў, што былі ўручаны ўдзельнікам сёлетніх фестывальных турніраў. Ды мо і не варта выносіць вялізны спіс пад умоўнай назваю "хто каго, каму і за што" на свет цэлы. Нагадаю (бо гэта публікавалася ўжо), што лідэрамі фестывалю сталі малады сталічны ансамбль "Шчодрыца" (кіраўнік Ірына Грамовіч), узнагароджаны дыятанічнымі цымбаламі работы пастаўскага майстра Івана Андрона, ды ўлюбёнец землякоў, нашчадак груздаўскіх музыкаў — "Паазер'е". Лаўрэатаў і дыпламантаў дзіцячага конкурсу было нямала, у іх ліку — тыя, пра каго я згадвала ў сённяшніх нататках. "Для раўнавагі" дадам яшчэ некалькі імёнаў дарослых салістаў: Андрэй Максімчык, Канстанцін Трамбіцкі, Вольга Кухарчук, Мікола Баравік, Леанід Мазлоў... Лепшыя калектывы да ўсяго былі ганараваны лаўрамі пастаўскай зямлі — вялізнымі густымі вянкамі з дубовага лісця, сімвалу моцы і дабрабыту.

•

Паставіўшы кропку, абавязкова захочаш дадаць пасля яе колькі слоў — пра штонебудзь, пра каго-небудзь. Таму што было на свяце і многа дзівосных імгненняў, і многа цудоўных таленавітых людзей. У тым ліку й тых, якія годна, без прыкрых накладак і непаразумеласцяў, вялі бясшумную і нябачную, але адчувальную сваімі вынікамі працу. Дырэктар фестывалю, "пастаўскі міністр культуры" Наталля Булавінцава, галоўны рэжысёр імпрэзы Пётр Гуд, члены журы... І нястомны старшыня аргкамітэта Тадэвуш Стружэцкі, светлы душою, сціплы, адданы і сваёй радзіннай Пастаўшчыне, і спрадвечным нашым культурным каштоўнасцям, і працы на ніве народнай творчасці — працы той самай "нягучнай і няўгледнай", але неабходнай для жыцця беларускага духу.

Арганізатарам ёсць над чым працаваць, рыхтуючы наступныя фестывалі.

Мабыць, варта пашырыць склад удзельнікаў, запрашаючы выканаўцаў на традыцыйных для Беларусі духавых інструментах, тым болей, што яны прадстаўлены ў складзе многіх гуртоў.

Мабыць, трэба ўкараніць сёлетні прынцып падбору прызоў, калі галоўнымі з іх сталі цымбалы ды баяны, і распаўсюдзіць гэткі практычны падыход не толькі да першых узнагарод. Чаму б, напрыклад, замест груваcткай керамікі не дарыць самадзейным артыстам камплекты цымбальных струн або нотныя зборнікі, якія заўсёды ў дэфіцыце! Пераможцы атрымліваюць магчымасць камандзіроўкі на якісьці з фальклорных фестываляў у Еўропе. А чаму б не забяспечваць іх і пуцёўкай на прэзентацыю ў роднай сталіцы? Журы заахвочвае арыентацыю калектываў на асаблівасці народнага музыціравання тых рэгіёнаў, якія яны прадстаўляюць, таму ў лідэры выходзяць сапраўды самабытныя, не падобныя адно да аднаго, выканаўцы, і выступленне тых жа "Шчодрыцы" ды "Паазер'я" (кожнаму — па аддзяленню) магло б стацца сюрпрызам для мінскай публікі.

Імпрэза пад назваю "Звіняць цымбалы і гармонік" выходзіць на дыхтоўны, міжнародны ўзровень. І вельмі важна не ўпусціць гэты момант, каб не ператварылася пастаўская імпрэза ў местачковы варыянт "Славянскага базару", каб знайшліся ўсё ж магчымасці для запрашэння да ўдзелу ў ёй, скажам, тых суседзяў па еўпапейскім доме, у чыім фальклоры таксама жывуць і цымбалы, і гармонік: малдаванаў, фінаў, венграў, чэхаў, германцаў, французаў... Зрэшты, прэзідэнт Сусветнай цымбальнай асацыяцыі Вікторыя Херэнчар падчас свайго візіту ў Мінск пераканала, што гэты інструмент у розных мадыфікацыях ёсць у музычным фальклоры практычна ўсіх народаў свету: ад англічан да кітайцаў.

Каштоўнасць пастаўскага фестывалю ў тым, што гэта — жывая справа, патрэбная ўсім, хто грае, і ўсім, хто слухае. Падчас канцэртаў я амаль не бачыла музейна-этнаграфічных старых. Я пабачыла прыгожых людзей сталага веку з жывымі мудрымі вачамі, а найбольш — моладзь: адукаваную, таленавітую, свядомую. Пабачыла слухачоў, якія чакаюць музычнага свята цэлы год... І ведаеце, пра што падумала? Не ўдаецца ў нас ні палітыкам, ні эканамістам зблізіць людзей, аб'яднаць іх намаганні вакол нейкай агульнай ідэі, павесці за сабой... Але тое, што не ўдаецца ім, заўсёды рабіла мастацтва.

Вось музыка. Праз музыку можна кансалідаваць нацыю, прымірыць пакаленні, узгадаваць духоўна здаровых нашчадкаў. Праз музыку выяўляецца ўсё лепшае, што ёсць у народзе, за што ён варты павагі ў свеце. Праз музыку раскрываюцца душы, збліжаюцца людзі, знаходзяць паразуменне цэлыя народы...

..."Замкнуць куфэрак" і паставіць канчатковую кропку ў сённяшняй размове ўсё ж мушу. Інакш — пра што буду пісаць, калі давядзецца і наступным разам патрапіць на фэст у Паставах?

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

*Паставы—Мінск*

*Фота Я. КАЗЮЛІ (БЕЛІНФАРМ)*

## ВЫЙШЛІ Ў БЕЛАСТОКУ

**Плённа працуе на Беласточчыне празаік Сакрат Яновіч. Пацверджанне таму і яго новы зборнік “Лістоўе”, у які ўвайшлі мініяцюры празаіка, напісаныя ў розны час. Паралельна ў зборніку змешчаны і іх польскія пераклады.**

**Зборнік прыгожа аформіў мастак Л. Тарасэвіч. Дарэчы, іх сумеснае выданне эксклюзіўнага ўзроўню рыхтуецца і ў Венецыі. Выдаваць яго будзе Г. Кардацца з галерэі дэль Кавэліна. Будуць там каляровыя рэпрадукцыі карцін Л. Тарасэвіча і мініяцюры С. Яновіча.**

●

**Селянін з Беласточчыны Міхась Красоўскі (1904—1985) здзіўляў землякоў сваімі ведамі і начытанасцю, хоць закончыў толькі чатыры класы царскай школы. І была ў яго вясковая мянушка — Дзядзька Квас. У вольны час ён браўся за пяро і пісаў сатырычныя вершы, апавяданні, крытычныя артыкулы і ўспаміны. Першы верш яго з'явіўся на старонках беластоцкай “Нівы” ў снежні 1959 года. А ў 1978 годзе займеў ён у гэтай газеце сваю ўласную рубрыку — “Палоску Дзядзькі Кваса”. І на працягу шасці гадоў друкаваў тут усё сваё, што было вартае для друку.**

**Беларускі журналіст з Беластока Віталь Луба сабраў усё лепшае з літаратурнай спадчыны Дзядзькі Кваса пад адну вокладку. Так і з'явілася вельмі цікавая і арыгінальная кніжка “Роздумы на калёсах”.**

●

**Янка Целушэцкі любіць падарожнічаць і вывучаць родную Беласточчыну. Усе ягоныя занатоўкі і склалі кнігу “Панарама гмін усходняй Беласточчыны”. Аўтар апісвае гісторыю, раслiннасць, сельскую гаспадарку, рэльеф, карысныя выкапні, асвету, культуру, спорт Гарадоцкай, Міхайлаўскай, Нараўчанскай, Чыжоўскай, Гайнаўскай, Нарваўскай, Дубіцкай, Кляшчэлеўскай і Чаромхаўскай гмін Беласточчыны. Кніга Я. Целушэцкага цікавая як з гістарычнага боку, так і геаграфічнага.**

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## У КРУПКАХ НОВЫ МУЗЕЙ



**У культурным жыцці раённага цэнтра Крупкі знамянальная падзея — адкрыўся гісторыка-этнаграфічны музей. Створаны ён сумеснымі намаганнямі мясцовага аддзялення Саюза майстроў народнай творчасці Беларусі, раённага аддзела культуры і шэрагу прадпрыемстваў горада, якія аказалі матэрыяльную падтрымку новаму музею. Вядома, стварэнне музея — гэта, у першую чаргу, заслуга энтузіястаў — народных майстроў Таццяны Белай, Надзеі Крыварот, мастака Аляксандра Міхеева і Сяргея Варламава і іншых.**

**У зале баявой славы музея сабраны матэрыялы пра землякоў, якія праславілі раён у гады Вялікай Айчыннай вайны. Дзве другія залы прысвечаны народнай творчасці, сельскаму побыту, звычаям і традыцыям, што бытуюць у тутэйшых мясцінах.**

**Ткачыха Надзея Крыварот прама ў музейнай зале дэманструе работу на кроснах. Адкрыццё этнаграфічнага музея сталася для горада сапраўдным святам. Гучалі народныя песні, гасцей частавалі пышнымі блінамі, беларускім салам і духмянай медавухай.**

*На здымку: у адной з выставачных залаў.*

*Яўген КАЗЮЛЯ,*
*БЕЛІНФАРМ*

## ФЕСТЫВАЛЬ АЎТАРСКАЙ ПЕСНІ

**На Міншчыне прайшоў першы абласны фестываль выканаўцаў аўтарскай песні. У ім прыняло ўдзел больш за 30 спевакоў. Званні лаўрэатаў заваявалі Рустам Ачылаў (Слуцкі раён), Сяргей Пракоф'еў (г. Нясвіж), Наталля Сянькова (г. Дзяржынск), Таццяна Захарыч (г. Вілейка), Галіна Баярэнка (г. Барысаў) і трыо “Фіеста” з Маладзечна. А дыпламантамі сталі Раіса Цыцэня з Пухавіцкага, Кастусь Цыбульскі са Слуцкага, Леанід Маўчанаў з Барысаўскага і Канстанцін Герашчанка са Смалявіцкага раёнаў. Усім ім уручаны дыпломы і каштоўныя падарункі.**

Уладзімір КОБРЫН

# ПАГОНЯ — БОГ, РАДЗІМА, НАРОД!

*(Працяг. Пачатак у NN 27-28)*

Лакалізацыя Міколам Ермаловічам летапіснай Літвы ў Верхнім Панямонні стала пачаткам разгадкі “літоўскага сфінкса”. Той-сёй з гісторыкаў скептычна адносіцца да высновы Ермаловіча. Але летапісныя сведчанні пра Літву побач з Наваградкам і Менскам, узгадка Длугаша пра перамогу над Літвой на “палях услонімскіх” упарта паказваюць нам на месцазнаходжанне гэтай Літвы ў Верхнім Панямонні. Зразумела, той, хто не хоча заўважыць відавочнага, той не заўважыць і аб'ектыўнага. Ды і пазнейшыя крыніцы ўказваюць на знаходжанне Літвы ў Верхнім Панямонні. Іпацьеўскі летапіс не адносіць да Літвы Кернаўскую зямлю — раён на поўнач ад Трокаў. Ды і самыя Трокі, паводле “Хронікі Літоўскай і Жамойцкай”, яшчэ ў XIV ст. знаходзіліся не на літоўскай зямлі. Мацей Стрыйкоўскі пісаў пра Літву, “якая жыла над Неманам у пушчах”. Жыхары Верхняга Панямоння захавалі найменне літвіны да канца XIX ст. і нават у XX ст. яны называлі сябе сваім спрадвечным імем. Так, паводле дадзеных прыходскіх спісаў 1861 г, у гэтым раёне (Слонімскі, Пружанскі, Слуцкі, Навагрудскі паветы) жыло 132 тысячы літвінаў. Гэта былі пераважна каталікі — нашчадкі ахрышчаных Ягайлам у 1387 г. язычнікаў-літвінаў. І ў наш час на Палессі раён Верхняга Панямоння называюць Літвой (параўнаем, латышы і жамойты называюць жыхароў Аўкштайцыі лейшамі). Такое супадзенне фактаў пацвярджае лакалізацыю летапіснай (дакладней назваць яе першапачатковай, Малой) Літвы ў гэтым рэгіёне. Не супярэчаць нашаму сцвярджэнню і звесткі пра біскупа Віта, які меў у Міндоўгавы часы катэдру ў Любчы каля Навагрудка. У польскіх дакументах ён называецца “біскупам Любчанскім, таму біскупам Літоўскім найменаваны”.

Верхняе Панямонне месца самых інтэнсіўных атмасферных ападкаў на Беларусі (гадавая норма больш за 700 мм; яму належыць і абсалютны рэкорд 955 мм (1958 г.). Зразумела, што для паклоннікаў Перуна Верхняе Панямонне ўяўлялася месцам асаблівай божай міласці. Тут нараджаўся і Нёман. Пэўна, таму і размяшчаў аўтар Дублінскага летапісу Белую Русь (белую ваду) побач з Яцвяззю, што можа сведчыць пра існаванне гэтай назвы ў гэтых месцах. Таму не выклікае здзіўлення, што літы (воіны Перуна) выбралі Верхняе Панямонне, як месца “дыслакацыі” сваіх вайсковых утварэнняў Літвы. Тут і захаваліся гэтыя архаічныя назвы — 5 тапонімаў Літва, вялікі лясны масіў (пушча) Літва ў Слонімскім раёне, а побач і балота з красамоўнай назвай Пагоня, тапонімы Лотва і рэчка з такой назвай. Лагічным здаецца і наяўнасць тапоніма Віцень (Быцень) на рацэ Шчары ў Слонімскім раёне. Віцень — Пагоня — Літва! Нашы мудрыя продкі пакінулі нам кодавыя знакі: Літва — Пагоня — Віцень — Быцень — Жыцень — Жыццё!

Побач з Літвой знаходзіўся Наваградак. У гэтым горадзе існавала свяцілішча Перуна. Наколькі яно мела важнае значэнне, можа сведчыць той факт, што Ягайла палічыў патрэбным абвянчацца з Софіяй Гальшанскай у касцёле, пабудаваным (у 1395 г.) на месцы гэтага капішча. Асаблівай пашанай карысталася і возера з сакральнай назвай Свіцязь. А паданне пра затапленне возерам горада з такой назвай наводзіць на думку пра знішчэнне ў часы Міндоўгавай вайны нейкага язычніцкага свяцілішча. На поўнач ад Навагрудка знаходзілася Крэва, верагодна, рэзідэнцыя крэваў. Назву горада Ліды можна вывесці ад імя багіні Лады (менавіта ў Лідскім павеце Нарбут зафіксаваў рытуальныя дзеі моладзі ў гонар гэтай багіні).

Нарбут называе яшчэ адзін язычніцкі цэнтр у Лідскім павеце — возера Дуб і сяло Рамонава на ягоных берагах; гісторык слушна тлумачыў гэты тапонім — Ромава, як называлася і сталіца Крэва-Крэвіча. Непадалёк ад Навагрудка знаходзіцца вёска Радагошч, якая па назве супадае з назвай культавага цэнтра славян-абадрытаў — Радагост. Паданні даносяць звесткі пра наяўнасць свяцілішча Перуна ў нясвіжскай зямлі. Горад Мядзел можа ўказваць нам на імя бога Медзііна. Але цэнтральную рэлігійную ролю ў гэтым рэгіёне адыгрывала рака Вілія. Да нашага часу захавалася яе поўная назва святая Вялікая рака (цікава, што словам вілія нашы продкі называлі свята). Вытокі гэтай ракі ў “святой зямлі ў барысаўскай” (зямлі, дзе жыў Бой/Грамабой — першапродак крывічоў) у Вітуніцкай воласці (!). Выцякае Вілія з кравецкіх балот з-пад каменя-краўца. Пад краўцом лёгка расшыфроўваецца імя крэвец — крэва.

На берагах ракі стаялі так званыя крывазнакі — камяні з сакральнымі сімваламі. Адзін з такіх камянёў знаходзіўся ва ўрочышчы Мачулішчы, па сведчаннях мясцовых жыхароў, на ім былі выбіты салярныя і перуновыя (лук са стрэламі) сімвалы. У Вілейскім раёне захаваўся стод-крыж з выбітым на ім крыжам-крыжоў. Паводле даследаванняў Э.Зайкоўскага, рака Вілія была звязана з культам Велеса — богам жывёл, багацця, мудрасці, але ён і бог памерлых, дзядоў. Менавіта на Віліі ўзнікае важны культавы цэнтр Крывы-град, а таксама месца спальвання нябожчыкаў Свінтарог (Святарог) — святы алтар. Адсюль душы памерлых ляцелі ў вырай. Сакральнае значэнне носіць і назва горада, які ўзнік пазней у гэтых месцах, Вільня — раздваенне, двайны. Калі ўлічыць, што ў даліне Святарога нябожчык пераходзіў з зямнога жыцця ў нябеснае жыццё, з аднаго стану ў другі, дык зразумела і сакральнае значэнне назвы Вільня. Гэты раён быў мяжой паміж паклоннікамі неба (Перуна) і паклоннікамі падземнага свету. Паводле даследаванняў Н.Велюса, міфалогія заходніх балтаў характарызуецца як міфалогія падземнага свету. Паклоннікі падземных багоў аддавалі перавагу чорнаму і сіняму колерам. Гэта вельмі істотная заўвага. А цяпер паглядзім на балцкую назву Віліі; у сярэднім цячэнні гэтая рака называецца Нярыс — чорная. Значыць, назва народа Нарома азначала чорны. Гэтым народам, пэўна, і былі жамойты. Менавіта Жамойць і адсутнічае ў спісе Нестара, што дало гісторыкам права атаясамляваць іх з Літвой. (На нашу думку, сучасные месцазнаходжанне Жамойціі і Аўкштайціі не адпавядае першапачатковаму. Сапраўды, значэнне назвы Аўкштайціі — “высокая зямля” не супадае з месцазнаходжаннем сучаснай Аўкштайціі, якая знаходзіцца на сярэднелетувіскай нізіне. Ясна, што жамойты не маглі гэты рэгіён называць “высокая зямля”. Верагодна, што Аўкштайція знаходзілася на Віленска-Ашмянскім узвышэнні і вярхоўях Нёмана, а сярэднелетувіскую нізіну займала Жамойція — нізкая зямля. Нашу версію пацвярджаюць і высновы летувіскага моваведа З.Зінкявічуса (К вопросу о происхождении Жемайтского диалекта // Балто-славянские исследования. 1982. М., 1983). Дык вось, жамойцкая мова кніг М.Даўкшы, М.Пяткевічуса, С-Б.Хіліскіса “З цяперашняга пункту гледжання аўкштайцкі дыялект”, а сённяшні жамойцкі дыялект гэта былы жамойцка-куршскі. У традыцыі XVI ст., калі з'явіліся першыя летувіскія кнігі, насельніцтва сучаснай Аўкштайціі лічылася жамойтамі. Значыць, межы жамойцкай мовы — гэта тэрыторыя сучаснага аўкштайцкага дыялекту, або зямля першапачатковай Жамойціі, што супадае з яе азначэннем “нізкая зямля”. Такім чынам, ужо ў гістарычную эпоху славяне, якія праніклі ў Віленска-Ашмянскі раён, сустрэліся з жамойтамі. І памяць, што суседні з імі народ жамойты, захавалася ў беларусаў да XX ст., бо летувісаў і нават балтамоўнае насельніцтва ў самой Беларусі яны называлі гэтым найменнем. Блытаніну ў лакалізацыю Жамойці ўнеслі гісторыкі, якія прынялі за яе ўтворанае з Коршскай і паўночнай часткі Жамойціі жамойцкае староства, а жамойцка-коршскіх мешанцаў прынялі за сапраўдных жамойтаў. Астатняя частка былой Жамойціі была аднесена да Аўкштайціі. Значыць, сучасных летувісаў можна з поўным правам называць нашчадкамі жамойтаў. Нашчадкі жыхароў Аўкштайціі балты вярхоўяў Нёмана, Віліі, Лідчыны, Нальшанаў і раёна Віленшчыны ўвайшлі ў беларускі этнас. З усяго сказанага можна зрабіць выснову, што ўжо ў XIII ст. насельніцтва Віленшчыны было славяна-балцкім з перавагай славянскага элемента, што пацвярджаецца матэрыяламі раскопак Крывога горада ў Вільні. Рэчы, знойдзеныя там, славянскага паходжання і датуюцца XII—XIII стст.).

Тое, што жамойты і прусы былі паклоннікамі падземнага свету, не выклікае сумненняў. У спісах прускіх багоў Пярун займае 7-8 месца (у жамойтаў, паводле М.Стрыйкоўскага, ён дзевяты). У беларускай міфалогіі падземны бог Сіціўрат ператвараецца ў мядзведзя. Культ мядзведзя звязаны і з богам Велесам. Таму герб Кіеўскай зямлі, дзе ў дахрысціянскія часы пакланяліся Велесу, як галоўнаму богу, меў выбражэнне мядзведзя.

У гістарычнай літаратуры захавалася апісанне старапрускай харугвы, на якой знаходзілася выява чалавека з мядзвеждай галавой. Вось яна, сімвалічная выява падземнага бога. Становіцца зразумелы і герб Жамойціі — чорны мядзведзь, таксама сімвал падземнага бога. Імя яго, пэўна, Вяльняс, бо менавіта гэты бог выступае галоўным героем у летувіскім фальклоры. Значыць, казаць пра нібыта жамойцка-летувіскія вытокі герба “Пагоня” проста не выпадае. Паклоннікі падземнага бога не маглі мець герб Перуна і выкарыстоўваць бела-чырвоную гаму колераў. Гэтак, паводле сведчанняў Жыгімонта Герберштэйна, жамойты насілі попельна-шэрае адзенне. Трокскае княства, у склад якога ўваходзіла Жамойція і Аўкштайція, карысталася гербам з выявай варанога каня ўбегу з чорным пеўнем на ім. Герб быў прысвечаны богу вайны Кавасу (пэўна, гэта імя легендарнага арыйскага каваля Ковы). З канца XIV ст. Трокскае княства, а пасля і ваяводства да другой паловы XVI ст. мела герб з выявай першага рыцара з шчытом у правай руцэ і дзідай у левай. Зноў сведчанне, што герб Пагоня ў мінулым не адносіўся да земляў сучаснай Летувы, а быў сімвалам Літвы-Беларусі.

Ітак, раён Верхняга Панямоння, заходне-паўночнай Беларусі і паўднёвай Летувы ў дахрысціянскія часы ўяўляе сабой культурна-рэлігійны цэнтр славяна-балцкага язычніцтва. А калі зірнуць на месцазнаходжанне першапачатковай Літвы, дык нельга не заўважыць чыста стратэгічнае значэнне яе размяшчэння. З поўдня і ўсходу Літва абараняла “цэнтр” ад паходаў хрысціянскіх князёў. Зямля, дзе знаходзіліся дружыны літаў, па-



*Герб Віленскага ваяводства з гербоўніка Стэмата. Першая палова XVI ст.*



*. Герб Трокскага ваяводства з гербоўніка Стэмата. Першая палова XVI ст.*

Вітаўт ЧАРОПКА

чала называцца Літвой, або Літоўскай зямлёй. Літва — дождж, але нагадаем і назва вострава Рюген (рэлігійны цэнтр паморскіх славянаў) азначаў таксама дождж (нямецкае слова Regen — дождж).

Не будзем падрабязна спыняцца на палітычнай гісторыі ўзвышэння вайсковай кансорцыі Літвы і пераходу да яе ўлады.

Што ж датычыцца першапачатковай Літвы, дык менавіта яна і стала адным з галоўных чыннікаў ва ўтварэнні сярэдневяковай беларускай дзяржавы Вялікага княства Літоўскага. Як палітонім назвы Літва і літвіны з цягам часу пачалі адносіцца да ўсяго насельніцтва Вялікага княства Літоўскага, а пасля сталі і этнонімам беларускага этнасу ("родом литвин" — гэтак прадстаўляліся беларусы ў Масковіі). Замацаваліся гэтыя назвы і за Аўкштайціяй, хаця балцкае насельніцтва дзяржавы літвіны-беларусы называлі жамойтамі.

Можна да канца свету спрачацца, хто каго заваяваў і хто атрымаў палітычную перамогу: Літва ці Наваградак. Гэта ўзровень спрэчак XVI ст. і нічога новага ў вывучэнні ВКЛ яна не прынясе. Важны вынік, што атрымаўся з таго палітычнага працэсу, які мы называем утварэннем Вялікага княства Літоўскага. Атрымалася дзяржава, дзе пануючае вайсковае (баярскае) славяна-балцкае саслоўе размаўляла на старабеларускай мове і свае фаміліі "ўпрыгожыла" знакамі высакароднасці — славянскім суфіксам віч. Гэтае саслоўе называла сябе шляхецкім народам, усведамляла сваё адзінства і адрознівала сябе ад простага народа. І калі Вітаўт у сваёй грамаце пісаў, што жамойты і аўкштайты — гэта адзіны народ літвіны і размаўляюць яны на адной мове, дык меў на ўвазе шляхецкі народ (літвінаў). І ён быў правы, бо калі прагледзець акты Жамойцкай зямлі і Віленскага ваяводства (летувіскіх паветаў), дык "народ" (жамойты і аўкштайты) размаўляе на адной мове — беларускай. Для літвінаў гэта мова была "языком власным" паводле трапнага выразу Льва Сапегі.

Не палітычная ўлада абумовіла характар Вялікага княства Літоўскага, а моўная ўлада. Яна стала той цэглай, якая змацавала ўвесь дзяржаўны будынак Вялікага княства. І калі Міндоўг пакланяўся багам з такімі "экзатычнымі" іменамі, як Ненадзееві, Целявелі (гэтыя багі сустракаюцца ў яцвягаў, што можа сведчыць пра яцвяжскае паходжанне гэтага князя), Дзіверыкзу (пану багоў, імя Перуна), Заечаму богу (адно з табуістычных імён зайца — Крывень) і Меідзіїну, дык Альгерд і Кестут у сваіх граматах называюць чыста славянскія святы Купалу і Пяруноў дзень. І калі першапачатковая Літва магла быць спачатку славяна-балцкай, дык у часы Міндоўга яе славянскі характар не выклікаў ніякіх сумненняў у біскупа Хрысціяна, які пашырыў тут хрысціянства: "Літва, або Літванія, — гэта славянская краіна". Нейкім чынам пра славянскасць Літвы можа сведчыць існаванне на славянскіх землях на берагах Дуная княства Літва і народа літовічы або латовічы. Славянскія імёны князёў і ваявод гэтай Літвы — Шэнеслаў, Люцень, Люнян — не выклікаюць сумневу ў яе славянскасці. Зразумела, што гэтая Літва ніяк не магла пазычыць сваё імя ад жамойтаў (летувісаў), а была спачатку, як і Верхненёманская, утварэннем вояў-літвінаў, паклоннікаў Перуна. Наяўнасць на землях Дунайскай Літвы тапоніма Пярэні пацвярджае нашу выснову. І, канешне, усмешку выклікае спроба летувіскіх гісторыкаў вывесці найменне Літва з гідроніма невялічкай рачулкі Летаўкі, прытока Віліі. Толькі шляхам этымалагічнага катавання гэтае слова можна прымусіць стаць словам Летува. Недарэчнасць падобных філалагічных практыкаванняў яшчэ ў тым, што Летаўка — гэта славянскае слова, якое азначае хуткая.

Нам могуць запярэчыць: а як жа імёны літоўскіх князёў? А хто пераканаўча давёў, што яны летувіскія? Бо і самі летувіскія моваведы разводзяць рукамі: маўляў, сэнс многіх імёнаў "цяжка растлумачыць".

Але справа ў тым, што літвіны насілі імёны з глыбокім сакральным значэннем, якія былі іх своеасаблівым жыццёвым кодам. А ў язычнікаў імёны давалі жрацы, у нашым выпадку крэва. І трэба толькі дзівіцца іх веданню семантычна-сакральных азначэнняў слоў, іх цудоўнаму веданню еўрапейскіх моў. Літвіны носяць славянскія, балцкія, лацінскія, грэчаскія, скандынаўскія імёны, нават родныя браты мелі імёны з розных моў, напрыклад, Альгерд — скандынаўскае, Кестут — грэчаскае.(Яскравы прыклад сям'я Бушка Валімунта: ягоныя сыны называліся Яўнута, Кезгайла, Румбольд (імя сустракаецца ў чэхаў), Шэдзібор, Судзівой, Гудыгерд, Сегебуд.) І казаць, што манархічная дынастыя ўладароў Вялікага княства была балцкай, — не выпадае.

З утварэннем Вялікага княства Літоўскага на чале з правадырамі Перуновых дружын літвы натуральна, што герб Пагоня стаў дзяржаўным гербам. Паводле Мацея Стрыйкоўскага, дык яшчэ Міндоўг прыняў Пагоню.



*Герб старажытнай Беларусі (Літвы) з гербоўніка "Armorial Lyncenich". Першая палова XV ст.*



*Герб старажытнай Летувы (Жамойціі) з гербоўніка "Armorial Lyncenich". Першая палова XV ст.*



*Герб Наваградскай зямлі з выявай крыжа св. Юрыя. Гербоўнік Стэмата. Першая палова XVI ст.*

Апроч глыбокага сакральнага сэнсу, які заключаў у сабе светапогляд беларусаў, герб набыў і новае значэнне: адказнасць дзяржавы за абарону краіны і народа, абавязак самога народа бараніць сваю краіну, сваё жыццё. Для ўладара дзяржавы ён стаў сімвалам ягонага галоўнага абавязку — "боронити мечом отчизны своее". Тыя землі, якія "добровольне приступили" да Вялікага княства, павінны былі "гербу погони слухати". На вялікай кнізе беларусаў Статуце 1588 г., які ўвабраў у сябе ўвесь вопыт судовага і звычаёвага права, выпрацаванага яшчэ ў часы крэваў, стаяла Пагоня.

У хрысціянскім асэнсаванні Пагоня пачала сімвалізаваць хрысціянскага апекуна Літвы-Беларусі св.Юрыя. А харугва гэтага святога — чырвоны крыж на белым полі — быў сцягам беларускіх воінаў, якія баранілі нашу Бацькаўшчыну ад ворагаў. Паводле "Жыцця св.Юрыя", гэты сцяг прынёс святому з неба анёл і сімвалізаваў падтрымку яго нябеснай дружынай. У народным уяўленні св. Юрый успрымаўся як хрысціянскі наступнік Перуна-Ярылы. Таму беларусы верылі, што ён адмыкае ключамі зямлю // выпускае жываносную расу на цёплае лета // на буйное жыта, // людзям на здароўе; сваім мечам абараняе людзей ад нячыстай сілы, звера лукавага, ад зла, ён жа з'яўляецца апекуном жывёлы, апекуецца ён і над закаханымі. У беларускіх спевах Юрый выступае пад імем Спарыш (Дабро) і атаясамліваецца з Жыценем (адсюль сувязь Віцень—Пагоня), выступае ён і пад імем Рай (Раёк). Ва ўяўленні беларусаў св.Юрый — гэта агульны вобраз Перуна-Ярылы-Лады-Вялеса-Жыценя. Ён, нябесны патрон Беларусі, перш за ўсё клапоціцца пра яе (напрыклад, "Пусцив росу цеплюсенькую // На Белую Русь і на увесь свет"). Варта разглядзець сэнс другога імя св.Юрыя —Спарыш (двайны колас ад Перуновага ўдару), што сімвалізуе блізнечны культ. Такім чынам, Ярыла-Спарыш гэта вобраз братоў-блізнят — адпаведнік грэчаскім Дыяскурам сыноў Зеўса і Леды. Ярыла выступае як вясновы бог і як восеньскі. Спарыш — як дух хлеба (Жыцень) выступае сімвалам багацця і тыпалагічна звязаны з міфалагічнымі летаўцамі, г.зн. з падаючымі зоркамі, якія, паводле народнага ўяўлення, прыносілі людзям золата і багацце. А падаючыя зоркі беларусы называлі знічкамі або пагонія. Спарыш (колас) гэта і фалічны сімвал. Пэўна, Ярыла (Юрый) увасабляе зямную іпастась Перуна, ягоны зямны воблік. З гэтай нагоды натуральным здаецца ўяўленне беларусаў пра Ярылу як пра ўнука Перуна — сына Дажбога і Лады. Як бачым, Ярыла выконвае функцыі Перуна (падацель вільгаці, расы, "ваданос", патрон ваяроў), Вялеса (апякун жывёлы), Лады. Можна сцвярджаць, што так званыя "Гедымінавыя Калюмны" графічнае адлюстраванне гэтай трыяды Ярылы. Пазнейшая сярэдневяковая традыцыя звязвала "Калюмны" з Полацкай зямлёй, называючы іх "печать полотцкая". Сапраўды, "Калюмны" мы бачым на пячатках полацкіх князёў Ізяслава Уладзіміравіча і Усяслава Брачыславіча. Асаблівую цікавасць выклікае выбражэнне "Калюмнаў" на пячатцы Усяслава: сярэдні слуп перакрыжаваны дзвюма лініямі — атрымліваецца выява шасціканцовага крыжа — знак Перуна. Значыць, сярэдні слуп у трыядзе сімвалізаваў Перуна. Каляровае спалучэнне супадае з колерамі Пагоні — белыя "Калюмны" на чырвоным полі. Полацкае паходжанне гэтага знака ўскосна пацвярджваюць летапісныя звесткі, што заснавальнік дынастыі Гедымінавічаў Віцень быў полацкім князем. З'яўленне "Калюмнаў" на шчыце Пагоні адносіцца да часу, калі было ліквідавана Полацкае княства, якое ўвайшло ў склад Вялікага княства Літоўскага. Гэта адбылося ў 1387 годзе. Графічна "Калюмны" нагадваюць славянскую літару Ш (ша). А цяпер паглядзім, што абазначалася гэтай літарай. Кананічнае значэнне: лічба 300 (нагадаем склад дружыны 300 воінаў); паняцце — страла (сімвал Перуновай маланкі); акультнае значэнне: карціна тарота — карона (сімвал вышэйшай улады суадносны і да галоўнага бога Перуна); планеты і задыяк — бык (Перуну, паводле Пракопа Кесарыйскага, "прыносяць у ахвяру быкоў"); сімвалічнае значэнне — іскупленне (купа — супольнасць, Купала, свята злучэння агня і вады). Так што "Калюмны" пэўна сімвалізавалі ўсе гэтыя значэнні. Пазней на шчыце Пагоні з'явіўся хрысціянскі крыж, падобны на крыж патронкі Беларусі св.Ефрасінні Полацкай.

Белы віцязь на белым кані ў хрысціянскай традыцыі — гэта сімвал праўдзівасці і вернасці, сімвал нябеснага воіна: "І ўгледзеў я неба расчыненае: і вось конь белы, і коннік на ім, названы Верным і Праўдзівым, што папраўдзе судзіць і ваюе (адкрыццё Іаана 19 х 11) ... І йшлі за ім войскі нябесныя на белых канёх, апраненыя ў віссон белы і чысты (19 х 14) ("...віссон жа ёсць справядлівасць святых").

Такім чынам, герб "Пагоня" быў, ёсць і будзе гістарычным кодам беларусаў, тым сімвалам, які з'яднаў усе эпохі нашай гісторыі — тэакратычна-язычніцкую і дзяржаўна-хрысціянскую, стаў сімвалам нацыянальна-вызваленчай барацьбы супраць царскага і бальшавіцкага рэжымаў. Галоўнае сімвалічнае значэнне яго — трыяда Бог, Радзіма і Народ! З гербам Пагоня і ягоным колеравым адлюстраваннем — бела-чырвона-белым сцягам — прыйшлі беларусы да аднаўлення сваёй дзяржаўнасці.

І ніякія "рэферэндумы" (а як дасягаюцца "единогласие и единодушие" народа з уладай, мы добра ведаем з нядаўных часоў) для гісторыі не маюць ні абавязковага, ні кансультатыўнага характару. Гісторыя дала кожнаму народу права на жыццё, а Пагоня — гэта сімвал жыцця беларусаў.

Гісторыя ведае, што і народ можа памыліцца, здараецца і такое. у свой час верны служка імперскага Рыма пад ціскам фарысеяў-рэнегатаў вынес на народнае абмеркаванне лёс Месіі. І народ, даведзены панаваннем чужынцаў да пакорлівага рабства, прагаласаваў за распяцце Хрыста. Што ж, "нячысцік спакусіў", бо "людзі палюбілі цемру больш за святло, бо ўчынкі іх былі благія".

І якімі б ні былі вынікі гэтага "рэферэндуму", Пагоня ўсё роўна застанецца з тымі, хто любіць сваю Бацькаўшчыну, хто ведае і шануе яе гісторыю і культуру, хто гатовы літаваць сябе дзеля Літвы — Беларусі. У славян было яшчэ азначэнне пагоні — ганцы, перадавы полк, авангард. І тыя, хто лічыць Пагоню сваёй святыняю, — перадавы полк на шляху да новай Беларусі, да гэтай славянскай мары пра чароўную краіну шчасця і духоўнай чысціні Белаводдзя. "Рэферэндум" паказаў, як доўга нам ісці да сваёй Беларусі. А ў тым, што дойдзем, гісторыя не сумняваецца. Вуснамі прарока-паэта яна даўно прадказала:

**Старадаўняй Літоўскай Пагоні**
**Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.**

І гэта праўда, бо Пагоня ёсць сімвал жыцця Беларусі. А жыццё ніякім рэферэндумам не спыніць. Жыве Беларусь!

# ЯЎРЭІ І БЕЛАРУСЬ

У выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшла ў свет кніжка аднаго са старэйшых беларускіх філосафаў Арона Скіра "Яўрэйская духоўная культура ў Беларусі". Пра змест выдання бачна з кароткай анатацыі: "У прапаноўваемай увазе шырокага чытача і спецыялістаў рабоце кандыдата філасофскіх навук Арона Скіра прасочваецца ўплыў духоўнай культуры на жыццё чалавека, народа і грамадства. Выкарыстоўваючы багаты фактычны матэрыял, літаратуру, што выйшла ў нашай краіне і за мяжой, абапіраючыся на свой жыццёвы вопыт, аўтар пераконвае нас у тым, што менавіта вернасць духоўнай спадчыне памагла яўрэям пранесці праз тысячагоддзі святло Торы і захаваць сябе як народ насуперак прыціску і нягод".

Пра што можна даведацца, чытаючы гэтую "кішэнную энцыклапедыю"? Вось пра што (калі каротка): яўрэйская духоўная культура на Беларусі двойчы была загублена бальшавізмам і нацызмам, але яна захавалася і ўзнялася з небыцця, яна выконвала і выконвае тую ж задачу, што і ўся агульначалавечая культура: яна абараняла духоўныя каштоўнасці, створаныя дзеячамі рэлігіі, мастацтва, навукі, зберагала і пеставала пачуццё святасці ва ўзаемаадносінах людзей.

З гэтай кнігі можна даведацца, колькі і дзе жыло яўрэяў у канцы XIX і пачатку XX ст. (у тым ліку Мінску, Пінску, Барысаве, Бабруйску, Стоўбцах, Нясвіжы, Навагрудку, Капылі, Любані і многіх іншых гарадах і мястэчках).

Можна атрымаць адказы на пытанні пра рэлігійныя (культавыя) навучальныя ўстановы, у тым ліку аб іешывах, хедэрах, кібуцах, "Талмуд-Торах" і г. д.; пра свецкія навучальныя ўстановы — гімназіі, вучылішчы і школы; пра старажытныя яўрэйскія святы: Пасхе, Шавуэс, Рош Ашона, Іом кіпур (Судны дзень), Сукот (Кушчы), Сімхас Тора, Ханіка, Пурым і інш. Можна даведацца, колькі было сінагог у Мінску, Магілёве, Віцебску, Бабруйску, Гомелі і іншых гарадах. (Паказальна, напрыклад, што ў Мінску ў 1917 годзе было 83 сінагогі, а цяпер іх усяго 2, і тыя ў гаротных дамках. З 1906 года радавала мяшчан і прыезджых харальная сінагога (цяпер Рускі тэатр), пабудаваная па ініцыятыве вядомага ўрача Іосіфа Лунца на сродкі, сабраныя яўрэямі Мінска).

У кніжцы шмат карысных і цікавых звестак пра людзей, іх дзеянні, грамадскія і палітычныя арганізацыі, пра навуковыя і філасофскія думкі і погляды і пра шмат што іншае, што ў цэлым складае паняцце "яўрэйская духоўная культура ў Беларусі" ў канцы XIX, пачатку XX стагоддзя, ажно да пачатку 2-й сусветнай вайны.

Няма магчымасці і, відаць, няма сэнсу пераказваць увесь змест каштоўнай працы вучонага-філосафа А. Скіра. Яе значнасць падмацавана і тым, што рэцэнзентамі яе з'яўляюцца вядомы ізраільскі пісьменнік Ш. Эвен-Шошан і народны паэт Беларусі Р. Барадулін.

**Абрам ЖАНІХОЎСКІ**
**рэферэнт праўлення Мінскага гарадскога таварыства яўрэйскай культуры**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Івану ЧАРОТУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

**Рэдакцыя і рэдакцыйная калегія часопіса "Полымя" выказваюць глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару часопіса ЗАКОННІКАВУ Сяргею Іванавічу з выпадку смерці маці — Валянціны Фёдараўны.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Сяргею ЗАКОННІКАВУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

Вяртанне

***Сёлета спаўняецца 480 год з дня нараджэння выдатнага дзяржаўнага палітычнага і хрысціянскага дзеяча Беларусі -- князя Мікалая Радзівіла Чорнага.***

# ПАЛІТЫК-РЭАЛІСТ

Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

Мікалай Радзівіл нарадзіўся 4 лютага 1515 г. у Нясвіжы, у драўляным замку, пабудаваным Кішкамі. Ён быў старэйшым сынам беларускага магната, маршалка земскага Яна Мікалая Радзівіла (які потым стаўся кашталянам троцкім) і Ганны Кішчанкі, уладальніцы Нясвіжа і іншых маёнткаў на Беларусі. Бацька памёр, калі Мікалаю было 7 гадоў, матка — праз 11 гадоў. Паколькі маці выйшла замуж другі раз, Мікалай Радзівіл разам з братам і сястрой быў узяты на каралеўскі двор Жыгімонта Старога, караля польскага і вялікага князя літоўскага і рускага. Пры двары ў Кракаве Радзівіл выхоўваўся. Ён атрымаў хатнюю адукацыю і, як сам потым прызнаваўся, недасканала ведаў міжнародную мову Еўропы таго часу — лацінскую, але добра ведаў і гаварыў на беларускай і польскай мовах.

Пасля смерці маткі Мікалай разам з братам Янам атрымаў у спадчыну бацькоўскія маёнткі, а таксама ад маткі Нясвіж з ваколіцай, Алыку на Валыні, Узду, Лахву і інш. Удзельнічаў у паходзе 1535 г. на Старадуб падчас вайны з Масквою. У войска, якім камандаваў ягоны дзядзька Юрый Мікалаевіч Радзівіл, гетман вялікі літоўскі, удзельнік славутай бітвы пад Оршай 1514 г., Мікалай выставіў, разам з братам, 160 коннікаў, якімі камандаваў. Аднак вайсковай кар'еры Мікалай Радзівіл не зрабіў, аддаючы перавагу палітычнай і дзяржаўнай дзейнасці. Гэтую сваю кар'еру ён пачаў у 1544 г., удзельнічаючы ў пасяджэннях вышэйшага прадстаўнічага органа — паноў рады Вялікага княства Літоўскага. У палітычнай тагачаснай сітуацыі, калі сын караля і вялікага князя Жыгімонта Старога Жыгімонт Аўгуст быў папярэдне, пры жыцці свайго бацькі, быў абраны польскім каралём і вялікім князем літоўскім і рускім, Мікалай Радзівіл Чорны пераконваў сяброў паноў рады, каб яны перадалі ўладу ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве Жыгімонту Аўгусту. Падчас гэтай сесіі Жыгімонт Аўгуст надаў Радзівілу пасаду маршалка земскага, а праз два гады Мікалай Чорны атрымаў Шавельскае староства ў Жамойціі. Ужо ад гэтага часу Мікалай Радзівіл увайшоў у склад сціслага атачэння маладога Жыгімонта Аўгуста і цесна супрацоўнічаў з ім, уплываючы на вырашэнне дзяржаўных спраў у нашай краіне.

Яшчэ больш палітычнае значэнне Мікалая Радзівіла Чорнага ўзмацнілася, калі вялікі князь Жыгімонт Аўгуст закахаўся ў маладую ўдаву троцкага ваяводы Станіслава Гаштольда — Барбару Радзівіл, стрыечную сястру Мікалая Чорнага і родную сястру Мікалая Юр'евіча Радзівіла, тады ўжо падканцлера літоўскага, а потым ваяводы троцкага і вялікага гетмана літоўскага. Дваюрадныя браты заахвочвалі гэты раман, а потым настаялі, каб Жыгімонт Аўгуст, не кампраметуючы іх сястру, ажаніўся з ёю (улетку 1547 г.), хоць ён спачатку шлюб скрываў перад старым каралём і маткаю, каралеваю Бонай. Ад гэтага часу абодва Радзівілы — Мікалай Чорны і Мікалай Руды — зближаюцца яшчэ больш з Жыгімонтам Аўгустам, а іх уплыў на дзяржаўныя справы ўзмацняецца.

У другой палове 1547 г. Мікалай Радзівіл Чорны быў накіраваны ў Вену на перамовы з Габсбургамі. У снежні 1547 г. імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Карл V надаў Мікалаю Радзівілу Чорнаму і яго брату тытул князя на Алыцы і Нясвіжы, а Мікалаю Радзівілу Рудому — князя на Біржох і Дубінках. Гэта яшчэ больш узмацніла аўтарытэт Радзівілаў у Беларуска-Літоўскай дзяржаве і за мяжой. У гэты ж час Мікалай Радзівіл устанавіў цесныя кантакты з герцагам прускім Альбрэхтам. На пачатку 1548 г. Радзівіл ажаніўся з Эльжбетай Шыдлавецкай, уступіўшы ў сваяцкія адносіны з уплывовым польскім магнатам, гетманам вялікім каронным і кашталянам кракаўскім Янам Тарноўскім, для якога напярэдадні дабіўся ў германскага імператара тытула графа. Тым самым Радзівіл зблізіўся з апазіцыяй каралеве Боне ў Польшчы.

Яшчэ больш узмацніліся пазіцыі Мікалая Чорнага пасля смерці Жыгімонта Старога (1548 г.). Цяпер яго бліжэйшы сябра Жыгімонт Аўгуст стаўся поўнаўладным каралём польскім і вялікім князем літоўскім і рускім. Але адразу Мікалаю Радзівілу прыйшлося пачаць барацьбу з апазіцыяй маладому каралю ў Польшчы, дзе ваявода кракаўскі Пётр Кміта і ваявода сандамірскі Ян Тэпчынскі са сваімі прыхільнікамі сарвалі каранацыю Барбары Радзівіл. Каранацыя яе адбылася пазней, у 1550 г., калі Мікалай Чорны (дарэчы, быў ён не ў найлепшых адносінах са стрыечнай сястрой) вымусіў апазіцыю ў Польшчы пагадзіцца з пануючым становішчам Радзівілаў не толькі ў Вялікім княстве Літоўскім, але і з іх моцнымі ўплывамі ў Польшчы, дзе Мікалай Радзівіл меў таксама маёнткі.

Адначасова Мікалай Чорны фактычна стаўся кіраўніком Беларуска-Літоўскай дзяржавы, якому перадаў уладу вялікі князь Жыгімонт Аўгуст, бо знаходзіўся цяпер амаль увесь час у Польшчы. 26 снежня 1550 г. Мікалай Радзівіл атрымаў пасаду канцлера вялікага літоўскага і Барысаўскае староства, а, пасля смерці каралевы Барбары, 11 чэрвеня 1551 года і пасаду ваяводы віленскага (першы ваяводскі тытул у дзяржаве). Пры гэтым пасады вялікага канцлера і маршалка земскага засталіся ў яго. Такім чынам, у руках Мікалая Радзівіла Чорнага была цяпер сканцэнтравана вялікая ўлада.

Крыху раней, восенню 1549 г., Жыгімонт Аўгуст накіраваў Мікалая Радзівіла на Валынь для адпору крымскім татарам. Беларуска-літоўскае войска ачысціла Валынь ад татараў. У снежні 1549 г. вялікі князь надаў Радзівілу тытул гетмана, але Мікалай Чорны прызначэння не прыняў, слушна лічачы, што гэта перашкодзіць яго дзейнасці ў вышэйшым кіраўніцтве дзяржавай.

Ужо на пачатку 50-х гадоў XVI ст. абодва Радзівілы, якія кіравалі дзяржавай, распачалі барацьбу супраць тых магнатаў і шляхты, якія намагаліся заключыць больш цесны саюз з Польшчай, каб пашырыць свае палітычныя правы па ўзоры польскай шляхты. Мікалай Радзівіл Чорны праводзіў цвёрдую палітыку ўмацавання дзяржаўнага суверэнітэту Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Ужо восенню 1551 г. на сойме ў Вільні Мікалай Радзівіл рашуча выступіў супраць перамоў з польскай дэлегацыяй аб дзяржаўнай уніі Вялікага княства Літоўскага і Рускага з Польшчай. На гэтым этапе польска-беларускіх дачыненняў яго падтрымліваў сам Жыгімонт Аўгуст. Вялікі князь у сваім прывілеі гарантаваў Беларуска-Літоўскай дзяржаве самастойнасць. У бліжэйшыя два гады Мікалай Чорны шмат займаўся пытаннямі знешняй палітыкі на соймах абедзвюх дзяржаў і падчас сустрэч з іншаземнымі манархамі.

Падарожжа Мікалая Радзівіла ў Вену ў першай палове 1553 г. і перамовы з габсбургскім дваром спрычыніліся да спынення падтрымкі Габсбургамі маскоўскага цара Івана IV. Быў прадухілены саюз паміж Германскай імперыяй і Маскоўскім царствам, якое пагражала ўсходнім межам Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Мікалай Радзівіл Чорны замацаваў саюз з Габсбургамі. Адначасова Радзівіл заключыў з рымскім каралём Фердынандам дамову, дачка апошняга Кацярына выходзіла замуж за Жыгімонта Аўгуста, а сам Мікалай Радзівіл Чорны атрымаў у дадатак тытул графа на Шыдлоўцу (у Польшчы). Саюз з Германскай імперыяй захоўваўся на працягу наступных двух дзесяцігоддзяў.



На сойме Беларуска-Літоўскай дзяржавы ў Вільні ў канцы 1554 — пачатку 1555 г., дзякуючы ініцыятыве Радзівіла, была забяспечана дапамога польскага войска ў выпадку нападу Маскоўскай дзяржавы на Беларусь. У Швецыю з мэтай саюза на выпадак вайны на Усходзе было накіравана пасольства. Разам з тым, як вопытны дзяржаўны дзеяч, Мікалай Радзівіл не парываў адносін з Масквою. У 1555 г. з царом Іванам IV было заключана 6-гадавое перамір'е, да 22 лютага 1562 года.

Яшчэ адным аспектам дзейнасці Мікалая Радзівіла Чорнага было правядзенне аграрнай рэформы ў гаспадарскіх (дзяржаўных) маёнтках. Ён стаўся на чале камісіі па падрыхтоўцы "Устава на валокі" і перразмеркаванні зямельных участкаў для сялян і ў гаспадарскіх фальварках. Уводзілася новая адзінка плошчы (валока = 21,37 га), не толькі гаспадарчая, але і фінансава-падаткавая, для адной сялянскай сям'і. Адначасова з землеўпарадкаваннем беларускія вёскі на Захадзе і ў цэнтры краіны станавіліся больш буйнымі, чым раней, з своеасаблівым выглядам: адна вуліца, на адным баку якой хаты, на другім — гаспадарчыя збудаванні. На валокі былі перамераны прыгарадныя землі гарадоў і мястэчак. Рэформа дала дзяржаўнаму скарбу дадатковыя фінансавыя сродкі. Сялянская абшчына ў большай частцы Беларусі была ліквідавана.

Пачынаючы з 1556 г. Мікалай Радзівіл Чорны некалькі гадоў займаўся прыбалтыйскай праблемай. Мэтай палітыкі Беларуска-Літоўскай дзяржавы ў гэты час было далучэнне Лівоніі да яе. Палітыка гэтая праводзілася спачатку асцярожна, каб не выклікаць вайну з Іванам IV. У верасні 1557 г. была падпісана дамова з лівонскім магістрам Фюрстэнбергам аб узаемнай абароне ад Масквы. За гэты поспех Жыгімонт Аўгуст у 1558 г. перадаў Радзівілу Ковенскае староства.

На пачатку 1558 г. Іван Грозны пачаў Лівонскую вайну, якая цягнулася для Расіі 25 гадоў. Яго войскі напалі на Лівонію. Радзівіл адмовіўся ад прапановы цара заключыць саюз супраць Крыма, бо бачыў, што цар хоча адцягнуць увагу Беларуска-Літоўскай дзяржавы ад Лівоніі, каб самому захапіць яе. Па прапанове Радзівіла паны-рада ў Вільні вырашыла заключыць больш цесны дзяржаўны саюз з Лівоніяй. 31 жніўня 1559 г. быў заключаны віленскі дагавор аб пратэктараце вялікага князя Жыгімонта Аўгуста з магістрам Лівонскага ордэна Готгардам Кетлерам. Паўднёва-ўсходняя частка Лівоніі была занята беларуска-літоўскім войскам. Да дагавора далучыўся і рыжскі арцыбіскуп. У 1559—1560 гг. у Маскве таксама вяліся перамовы аб канчатковым міры, але Іван Грозны патрабаваў аддаць яму ўсю Лівонію, якую нават і не заваяваў.

У выніку новых удараў расійскіх войск у 1561 г. Лівонскі ордэн распаўся. Эстляндыю захапіла Швецыя, Эзэль-Вінскае біскупства заняў дацкі прынц Магнус. Усходнія землі Латвіі і Эстоніі захапілі войскі цара. Уся іншая тэрыторыя была занята беларуска-літоўскім войскам. 28 лістапада 1561 г. апошні магістр Г. Кетлер абвясціў секулярызацыю ордэна. У гэты дзень у Вільні быў падпісаны акт аб падпарадкаванні Лівоніі сумесна Вялікаму княству Літоўскаму і Польшчы. Кетлер станавіўся герцагам Курляндыі, васалам Жыгімонта Аўгуста. Цяпер Беларуска-Літоўская дзяржава пачала вайну за гэтую аўтаномную ў дачыненнях да яе тэрыторыю. Радзівіл быў прызначаны адміністратарам Лівоніі.

Ужо вясной 1562 г. расійскія войскі ўварваліся на тэрыторыю Беларусі, разрабаваўшы ваколіцы Віцебска, Оршы і Шклова і знішчыўшы насельніцтва. Кульмінацыяй перамог Івана Грознага было ўзяцце яго войскам Полацка ў лютым 1563 г (на 16 гадоў). Здзекі, гвалт і забойствы пры гэтым далі яму на Беларусі мянушку "Жахлівы".

Вайна з Маскоўскай дзяржавай значна змяніла становішча Беларуска-Літоўскага гаспадарства. У сувязі з пагрозай незалежнасці нашай дзяржавы беларуская шляхта на палявым сойме пад Віцебскам у верасні 1562 г. прапанавала праект новай дзяржаўнай уніі з Польшчай. Польская шляхта і магнаты таксама намагаліся заключыць унію са сваімі мэтамі пашырэння тэрыторыі на Украіне і інкарпарацыі беларускіх і літоўскіх зямель. Сам Жыгімонт Аўгуст таксама схіляўся да дзяржаўнай уніі Польшчы і Літвы.

Мікалай Радзівіл Чорны ў першай палове 60-х гадоў XVI ст. у неспрыяльных умовах для Беларусі рабіў усё магчымае, каб захаваць самастойнасць, незалежнасць і суверэнітэт Беларуска-Літоўскай дзяржавы. На некалькіх соймах ён выступаў супраць праектаў інкарпарацыі нашай дзяржавы ў склад Польшчы. Дзякуючы яго настойлівасці дзяржаўную унію з Польшчай удалося адцягнуць на некалькі гадоў. Люблінская унія была заключана ў 1569 г., ужо пасля яго смерці.

Аднак Мікалай Радзівіл Чорны быў палітыкам-рэалістам. Абараняючы незалежнасць дзяржавы, ён разумеў, што трэба даць беларускай і літоўскай шляхце больш самастойнасці, правы, якія ўжо мела польская шляхта. Таму ён згадзіўся з Жыгімонтам Аўгустам, што неабходна правесці судова-адміністрацыйную рэформу. У 1564 г. (I.VII) быў выданы Бельскі прывілей, у якім абвяшчалася аб утварэнні шляхецкіх саслоўных судоў і аб аддзяленні гэтых судовых органаў ад вялікакняжацкай адміністрацыі на месцах. Шляхта фактычна і фармальна выходзіла з падпарадкавання магнатам, улада якіх абмяжоўвалася. Потым была праведзена павятовая рэформа і створаны органы мясцовага шляхецкага самакіравання — павятовыя соймікі. Страта прывілеяў магнатаў і абмежаванне ўлады вялікага князя прывялі да кансалідацыі феадальнага саслоўя, што дало магчымасць дзяржаве выстаяць у цяжкія гады Лівонскай вайны. Прадбачлівасць Радзівіла праявілася і тут.

Памёр Мікалай Радзівіл Чорны 29 мая 1565 г. у сваім двары (маёнтку) Лукішках, ля Вільні. Цяпер гэта раён Лукішскага пляца ў Вільні. Пахаваны ён (і яго жонка таксама) быў у маўзалеі пры кальвінскім зборы ў Вільні, у 1627 г. яго астанкі перанесены да збору ў Дубінках.

Уся дзейнасць Мікалая Радзівіла Чорнага была накіравана на захаванне незалежнасці і суверэнітэту Беларуска-Літоўскага гаспадарства. Дзякуючы яго паслядоўнай незалежніцкай пазіцыі наша дзяржава дасягнула найвышэйшага росквіту, а грамадскае жыццё ў ёй было заснавана на юрыдычных прынцыпах нацыянальнага права.


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Саюз беларускіх пісьменнікаў і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932-35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935-41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945-46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947-49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949-50)* |
| *В.Вітка* | *(1951-57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957-59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959-61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961-69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969-72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972-76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976-80)* |
| *А.Жук* | *(1980-86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986-90)* |





АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі -- *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара -- *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі -- *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі -- *331-985*
літаратурнага жыцця -- *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі -- *332-204*
паэзіі і прозы -- *332-204*
музыкі -- *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання -- *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- *332-462*
навін -- *332-462*
мастацкага афармлення -- *332-204*
фотакарэспандэнт -- *332-462*
бухгалтэрыя -- *268-640*





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»
Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 6858.
Нумар падпісаны 20. 7.1995 г.
ЗАКАЗ 2677
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12